ЛіМ Літаратура і мастацтва

14 ЛІСТАПАДА 2003 г. № 46/4231

## АНОНС!

Набліжаецца 60-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 60-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Установа «Літаратура і мастацтва» праводзіць агульнанацыянальную акцыю па стварэнні кнігі **«Наша Перамога»**. Запрашаем усіх, хто зацікаўлены, да супрацоўніцтва.



У рубрыцы "Наша Перамога" — артыкул Уладзіміра Паўлава "Найперш ратавалі дзяцей".

4-5





# Галоўная ТЭМА ТВОРЧАСЦІ

*У літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася выстава твораў мастака Янкі РАМАНОЎСКАГА, прысвечаная 75-годдзю з дня ягонага нараджэння. Галоўнай тэмай творчасці жывапісца быў вобраз беларускага Песняра*

Стар. 12



# КОЛА ДЗЁН

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны зацверджаны новыя памеры мінімальных спажывецкіх бюджэтаў у цэнах верасня. Зараз "сярэдні" МСБ на кожнага члена сям'і з 4 чалавек складае 174,810 рублёў. У сувязі з ростам цэн на тавары і паслугі, павялічаны мінімальныя спажывецкія бюджэты для асобных катэгорый насельніцтва. МСБ працаздольнага мужчыны зараз адпавядае 216 170 руб., працаздольнай жанчыны — 218 390 руб., мужчыны-пенсіянера — 180 080 рубл., жанчыны-пенсіянеркі — 179 700 руб., студэнта — 152 770 руб., студэнткі — 152 490 руб., дзяўчынкі да 3 гадоў — 135 510 руб. І хлопчыка — 135 340 руб.

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Згодна з рашэннем Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь выпускнікам 2004 года за курс сярэдняй школы давядзецца здаваць усяго тры экзамены: два абавязковыя — па беларускай ці рускай мове (на выбар) і матэматыцы (пісьмова), трэці прадмет для здачы на экзамене выпускнікі змогуць выбраць для сябе самастойна. Права выбару будуць пазбаўлены толькі вучні класаў з паглыбленым вывучэннем асобных прадметаў: трэці экзамен ім прыйдзецца здаваць па профільным прадмеце, зразумела, калі апошні не супадае з абавязковым.

## КЛОПАТ ТЫДНЯ

З заклікам удасканаліць эпідэмічную работу ў краіне звярнуўся да кітайскіх уладаў прадстаўнік Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ) Хенк Бекедам. Толькі строгі кантроль і хуткая ізаляцыя захварэўшых, на думку экспертаў СААЗ, могуць папярэдзіць другую "хвалю" эпідэміі атыповай пнеўманіі, якая чакаецца гэтай зімой. Не выключаюць пагрозу пранікнення на тэрыторыю нашай краіны віруса SARS і беларускія эпідэміёлагі. З гэтай нагоды ў Міністэрстве аховы здароўя прайшла міжведамасная нарада па атыповай пнеўманіі. Пад узмоцнены кантроль эпідэміялагічных службы плануюць узяць аэрапорты "Мінск-1", "Мінск-2" і ўсе цягнікі ўсходніх напрамкаў.

## ПАКАЗЧЫК ТЫДНЯ

Паказчык аплаты камунальных паслуг насельніцтвам у будучым годзе мяркуецца давесці да 60 працэнтаў іх кошту. Пра гэта паведаміў для СМІ міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі Аляксандр Мількота, але, паводле яго слоў, гэтае рашэнне пакуль не канчатковае, таму што праект бюджэту рэспублікі яшчэ павінен разглядацца парламентам і зацвярджацца Прэзідэнтам. У гэтым годзе, згодна з законам "Аб бюджэце", насельніцтва аплачвае камунальныя паслугі ў памеры 50 працэнтаў іх кошту.

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

З 1 лістапада 2003 года павышаны памеры кампенсацыі расходаў пры службовых камандзіроўках, якія ажыццяўляюцца ў межах нашай краіны. Цяпер сутачныя складаюць 6000 рублёў за кожны дзень камандзіроўкі (раней — 5000 руб.), сутачныя пры аднадзённых службовых камандзіроўках і камандзіроўках у такую мясцовасць, адкуль ёсць магчымасць штодзённа вяртацца да месца пастаяннага жыхарства — 3000 руб. (раней — 2500 руб.), па найму жылога памяшкання без прадстаўлення пацвярджальных дакументаў — 1800 руб. (раней — 1500 руб.).

## СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

У нашай краіне пастунова павышаецца сярэдні ўзрост уступлення ў шлюб. Так, пачынаючы з 1985 года самы нізкі ўзроставы парог для жанчын, якія ўступілі ў першы шлюб, быў адзначаны ў 1995 годзе — у сярэднім 21,6 гады. У 2002 годзе гэты паказчык склаў 22,5 гады. Самымі маладымі жаніхі былі ў 1993 годзе. Іх сярэдні ўзрост — 23,6 гады. У 2002 годзе сярэдні ўзрост мужчын, якія ўступалі ўпершыню ў шлюб, склаў 24,8 года. Словам, апошнім часам моладзь не спяшаецца ствараць сям'ю.

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

Нацыянальная авіякампанія "Белавія" ў хуткім часе плануе замяніць расійскія самалёты Як-40 і Ту-134 на замежныя "Боінгі" і "Эмбраеры". У 2004—2007 гадах мяркуецца закупіць 7 замежных самалётаў.

## СУВЯЗЬ ТЫДНЯ

На сённяшні дзень сотавай сувяззю ў нашай краіне карыстаюцца больш як 940 тысяч чалавек. На долю сумеснага беларуска-кіпрскага прадпрыемства "Мабільная лічбавая сувязь" (Velcom) прыпадае каля 580 тысяч абанентаў (63 працэнты ад агульнай колькасці). Абаненцкая база кампаніі "Мабільныя ТэлеСістэмы" (МТС) складае прыкладна 340 тысяч чалавек (каля 37 працэнтаў). Яшчэ каля 20 тысяч абанентаў карыстаюцца паслугамі мабільнай сувязі кампаніі "БелСел".

## ПОСПЕХ ТЫДНЯ

З канвеера РУВП "Віцязь" сышоў чатырохмільённы тэлепрыёмнік. Ён мае назву "Еўропа", дыяганаль экрана гэтай сучаснай бытавой тэхнікі — 63 сантыметры.

НАША ПЕРАМОГА

# ЖЫВУЦЬ У ПАМЯЦІ



На днях у Мінску, якраз напярэдадні вызвалення Кіева ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у зале Перамогі музея Вялікай Айчыннай вайны адбылася цырымонія ўзнагароджання пяцідзесяці ветэранаў-мінчан — удзельнікаў баёў за Украіну — медалём "Абаронцу Айчыны". Гэта не першая акцыя пасольства суседняй дзяржавы. На сённяшні дзень, як адзначыў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Украіны Пётр Шапавал, згодна спісаў, падрыхтаваных саветам ветэранаў Беларусі, украінскімі ўзнагародамі ўшанавана каля сямісот беларусаў.

Гледзячы на ўдзельнікаў баёў за Украіну, мне ўспомніліся школьныя гады, калі да нас, вучняў Брацькавіцкай сярэдняй школы (вёска пахавана ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС), час ад часу на ўрокі памяці прыходзілі ветэраны Вялікай Айчыннай. Яны з гонарам расказвалі пра сябе, пра подзвігі сваіх таварышаў. Ад ветэранаў мы даведаліся, што ў школе, у якой мы вучымся, падчас акупацыі жылі паліцаі. Партызаны Клятнянскай брыгады, правёўшы баявую аперацыю, знішчылі іх. Уражаныя подзвігамі былых партызанаў і ўдзельнікаў вайны, мы, вучні, як першых, так і дзесятых класаў, узялі шэфства над імі. Дапамагалі як маглі. З гонарам і павагай кожны з нас дагледжваў помнік партызанскім камандзірам Багрыенку і Лапаціну, якія загінулі падчас гэтай аперацыі.

Памятаецца, як у адзін з зімовых вечароў, напрасткі па агародах я прыйшоў да аднавяскоўца Мікалая Кузьміча Зыкава. Святла ў хаце не было і я ледзь знайшоў клямку дзвярэй, а потым, бразгаючы чыгункамі і вёдрамі, што сталі ў сенцах, пераступіў парог.

Шчоўкнуў выключальнік, і святло заліло другую палову хаты. Да мяне, трымаючы ў руках махорку і кавалачак адарванай газеты для цыгаркі, падышоў Мікалай Кузьміч: невысокага росту, каржакаваты, са спакойным уважлівым позіркам. Пакуль на грубцы грэўся чайнік, Кузьміч расхаджваў па хаце і паўтараў: "Што ж табе такога расказаць пра вайну?" І толькі калі мы селі за стол, Мікалай Кузьміч пачаў расказваць:

— Я, сапёр. За ўсю вайну, якая для мяне распачалася ў Архангельску, дзе я служыў, і закончылася ў далёкай Манголіі, я ніводнага разу пры размініраванні палёў не памыліўся. Таму, напэўна, і застаўся жыць...

...Усходняя Прусія. Невялічкі хутар, у якім моцна трымаліся фашысты, перашкаджаў руху савецкіх войск. Усе падыходы да галоўнага напрамку былі заміраваны. Сапёрнаму аддзяленню сяржанта Зыкава на чале з камандзірам узвода Манахавым было даручана правесці ўзвод самаходак у абход. Ішлі доўга, на хаду размініруючы дарогу, пакуль іх не заўважылі фашысты. Завязалася перастрэлка...

— Мы паўзлі паперадзе самаходак, — расказвае Мікалай Кузьміч, — а навокал нас ірваліся міны, гарэла зямля. Адлеглаcць да немцаў скарачалася. Вось ужо закончыўся мінны праход, і раптам куля скасіла камандзіра ўзвода. Мне, як старшаму па званні, давялося паднімаць байцоў і весці наперад. Праз некалькі хвілін хутар быў наш, немцы здаліся ў палон...

Пачулася, як бразнулі дзверы ў хату, расцілаючыся нізка па падлозе, увярваўся сноп марознай пары. На парозе, абабіваючы бярозавым венікам снег з валёнак, стаяў малодшы брат Мікалая Кузьміча, Васіль. Прыйшоў даведацца, як здароўе старэйшага, бо той усяго некалькі дзён, як вярнуўся з санаторыя.

Пра ваенныя раны Мікалай Кузьміч не надта хацеў расказваць, але ж калі знайшоў у пячурцы невялічкую скрыначку і дастаў з яе сплясканы кавалачак свінцу, зноў загаварыў:

— У адну з начэй наша рота мініравала супрацьтанкавы роў. Майму ж аддзяленню было даручана замініраваць усе падыходы да траншэй. Заставалася паставіць дзве міны, але іх не паднеслі. Я вярнуўся ў траншэю, узяў іх. Толькі падняўся на бруствер, як раптам імгненна на зямлю выпалі з рук міны. Нейкую хвіліну стаяў і не разумеў, ніякай страляніны не чуваць, а рука занямела, стала цяжкай і гарачай. Як потым зразумеў, трапіў пад шалёную кулю...

28 верасня ў Касцюковічах святкавалі дзень вызвалення горада — другім па ліку раённым горадзе нашай краіны (першым быў Хоцімск), які вызвалілі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў часці 3-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант А. Гарбатаў) Бранскага фронту і партызаны Клятнянскай брыгады. Сярод ветэранаў, удзельнікаў Вялікай Айчыннай, на жаль, ужо не было Мікалая Кузьміча Зыкава, ураджэнца вёскі Калодзезкая (таксама пахавана ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС) на гімнасцёрцы якога ззялі два ордэны Чырвонай Зоркі, ордэн Славы, медалі "За ўзяцце Кёнінгсберга", "За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945" і "За перамогу над Японіяй".

**Віктар ПАТАПЕНКА**

ДАНІНА ПАВАГІ

# ЖЫВЫЯ КВЕТКІ, БРОНЗАВЫ ПОМНІК

***У панядзелак 3 лістапада на магіле Стэфаніі Станюты паўстаў помнік. З гэтай нагоды да месца пахавання актрысы прыйшлі яе сваякі, сябры, калегі. Былі і афіцыйныя асобы. Помнік зрабіў скульптар Уладзімір Слабодчыкаў, архітэктурную прывязку — Сяргей Казлоўскі. Выступалі на імпрэзе намеснік міністра культуры У. Рылатка, дырэктар Музея сучаснага мастацтва В. Шаранговіч, аўтар помніка У. Слабодчыкаў, сваякі і калегі Стэфаніі Міхайлаўны.***



На фоне іншых надмагілляў, якія ў большасці ўяўляюць сабою бюсты на пастаментах, помнік актрысе глядзіцца надзвычай арыгінальна. Скульптар — аўтар помніка гаворыць, што хацеў увасобіць аднапасова гістарычную постаць і абаяльную жанчыну, што ён удзячны лёсу за магчымасць дакрануцца да гэтага светлага вобраза.

Ад іншых выступоўцаў можна было пачуць, што Стэфанія Станюта сімвалізуе ўсё лепшае, што ёсць у нашых жанчынах, ды і ўвогуле ў беларускім нацыянальным характары.

На імпрэзе гучала музычная тэма са спектакля "Гаральд і Мод" у выкананні артыстаў Купалаўскага тэатра. Гэты спектакль быў знакавым у творчым лёсе Стэфаніі Міхайлаўны. Ён пра сустрэчу з маладосцю. Пра тое, як бачыцца маладосць з вышыні пражытых гадоў. Па словах дасведчаных людзей, у свае больш як дзевяноста год Станюта іграла ў ім геніяльна. Іграла самую сябе.

Напрыканцы імпрэзы прысутныя прысутныя да бронзавай скульптуры паклалі жывыя кветкі.

**В. БОГУШ**

## ДАНІНА ПАВАГІ




### НА ВУЛІЦЫ ЧЫГРЫНАВА

Тое, што ў Магілёве ёсць такая вуліца — абсалютна заканамерна. Магілёўская зямля і яе людзі заўсёды былі ў полі зроку народнага пісьменніка Івана Чыгрынава. Магіляўчане з павагай ставяцца да творчасці свайго слыннага земляка. Таму і стала сапраўдным святам адкрыццё мемарыяльнай дошкі на будынку школы № 6, што знаходзіцца на вуліцы Івана Чыгрынава. Спрыяла гэтаму і цудоўнае надвор'е. На ўрачыстасць сабралася творчая інтэлігенцыя горада, прыхільнікі таленту пісьменніка, настаўнікі і вучні школы. Пра Івана Чыгрынава пісьменніка і чалавека шчыра і цёпла гаварылі намеснік начальніка ўпраўлення культуры І. Васільчанка, сакратар абласной пісьменніцкай арганізацыі У. Дуктаў, старшыня камісіі па спадчыне пісьменніка А. Пісьмянкоў, празаік І. Аношкін, рэжысёр В. Ермаловіч, аўтар мемарыяльнай дошкі скульптар А. Вераб'ёў, кнігалюб В. Арцем'еў... Асабліва цёпла віталі магіляўчане жонку пісьменніка Людмілу Прохараўну Чыгрынаву.

Дырэктар школы В. Кіцікаў запэўніў прысутных, што неўзабаве пры школе будзе створаны музей славутага земляка.

**Сымон КАНІЦКІ**



## ПАМЯЦЬ

# ДУША ЯГО З НАМІ



А.Мікітэнка, П. Гамзатава, В. Рагойша, Р. Гамзатаў і Т. Кабржыцкая. Карлавы Вары, 1988 г.

Яшчэ зусім нядаўна мы з цікавасцю і зацікаўленасцю глядзелі трансляцыю з Масквы юбілейнага вечара Расула Гамзатава. Уся вялікая шматмільённая Расія, а не толькі адзін Дагестан, не толькі трыццацітысячны родны аварскі народ вітаў свайго васьмідзесяцігадовага песняра-ашуга.

І вось яго не стала.

Разам з аварцамі, дагестанцамі, расіянамі асірацелі і мы, беларусы, асірацела і беларуская культура. Гэтаксама як нядаўна асірацела аварская, дагестанская, расійская культура са смерцю нашага Васіля Быкава. Бо сэрцы такіх людзей, як Быкаў і Гамзатаў, сонечна азараюць і саграюць не толькі свае народы, але і ўсё чалавецтва.

Жыццёвы лёс Расула Гамзатава і як чалавека, і як творцы з самага пачатку склаўся шчасліва. Нарадзіўшыся ў сям'і народнага паэта Дагестана Гамзата Цадасы, з чатырнаццаці гадоў пачаўшы друкавацца, а ў дваццаць – меўшы ў руках першы паэтычны зборнік ён пасля заканчэння Літаратурнага інстытута імя М.Горкага ў няпоўныя трыццаць стаў лаўрэатам тагачаснай Сталінскай прэміі, у трыццаць шэсць – народным паэтам Дагестана, у сорак – лаўрэатам Ленінскай прэміі, у пяцьдзесят адзін – Героем Сацыялістычнай Працы... Канечне, на гэтым, знешне толькі паспяховым, жыццёвым і творчым шляху былі не толькі пад'ёмы, але і спады, няўдачы, часам – прахадныя, "датныя" творы. Але ў каго тады (дый цяпер) такога не было і не бывае! Сёння відавочна, што творчасць Расула Гамзатава, як і нашых Максіма Танка ці Васіля Быкава, вартая і Нобелеўскай прэміі, толькі гэтая прэмія, як, зрэшты, і многія іншыя, на жаль, не заўсёды прыходзіць да тых, хто іх аб'ектыўна заслугоўвае...

Расулу Гамзатаву была блізкай Беларусь, дзе ён неаднойчы бываў (у яго ёсць выдатны вершаваны цыкл "З беларускага сшытка"; помніцца аншлаг на яго творчым вечары ў Дзяржаўнай філармоніі ў Мінску на пачатку 60-х гг. ужо мінулага стагоддзя...), беларуская літаратура. З некаторымі нашымі пісьменнікамі, найперш з Аркадзем Куляшовым і Максімам Танкам, ён шчыра, як толькі гэта ўмеюць горцы, сябраваў.

З Расулам Гамзатавым выпала шчасце сустракацца, кантактаваць і мне. У самым канцы 70-х гг. у адну з маіх паездак у Маскву на пасяджэнне Савета па мастацкім перакладзе пры СП СССР я пры сустрэчы папрасіў Гамзатава перакласці на аварскую мову знакаміты верш Янкі Купалы "А хто там ідзе?" У той час мы з Я.Ю.Рамаоўскай рыхтавалі да стогадовага юбілею народнага песняра Беларусі кнігу, у якую б увайшоў адзін толькі гэты верш у арыгінале і ў перакладзе на мовы народаў свету. Расул Гамзатавіч адразу згадзіўся, узяў прыгатаваныя мной матэрыялы для перакладу (арыгінал, рускі падрадкоўнік з апісаннем асноўных асаблівасцей паэтыкі беларускага тэксту, пераклад верша на рускую мову М.Горкага і М.Ісакоўскага), пры гэтым згадаў добрым словам Янку Купалу. Праўда, чакаць пераклад давялося даволі доўга, прычынай былі то хваробы паэта-перакладчыка, то яго частыя паездкі па краіне і за мяжу, то іншыя ягоныя творчыя планы... Ды, нарэшце, калі купалаўская кніга была ўжо на выдавецкім варштаце, я акрылена нёс у "Мастацкую літаратуру" машынапіс перакладу Гамзатава, чарнавік якога за колькі дзён да таго мне паказваў сам паэт на яго маскоўскай кватэры па вуліцы Максіма Горкага (цяпер—Цвярской), даючы "чэснае слова", што на гэты раз абяцанае выканаецца ў час...

Кніга Янкі Купалы "А хто там ідзе? На мовах свету" (1982; перавыдадзена ў 1983) з'явілася якраз у юбілейны год; верш у ёй надрукаваны ў перакладзе больш чым на 80 моў народаў свету. Другім у ёй (пасля перакладу на абазінскую мову; пераклады ў першым выданні кнігі ішлі строга паводле алфавітнага прынцыпу) быў надрукаваны гамзатаўскі пераклад Купалавага верша на аварскую мову. Кніга-альбом, з многімі арыгінальнымі здымкамі Купалы, багата ілюстраваная, у тым ліку – і каляровымі слайдамі з карцін вядомага "Купалаўскага цыкла" народнага мастака СССР Міхаіла Савіцкага, выдатна афармленая мастаком Леанідам Прагіным, рупнай рукой Ядвігі Раманоўскай была з выказваннем удзячнасці даслана ўсім перакладчыкам. Трапіла яна і да Гамзатава. І таму, калі ў канцы ўжо 80-х гг., паехаўшы з Таццянай Кабржыцкай на санаторнае лячэнне ў Карлавы Вары (Чэхія), мы сустрэліся там з Расулам Гамзатавым пя бювета з мінеральнай вадой, узаемна былі шчыра ўзрадаваны такой нечаканай сустрэчай і пасля бачыліся амаль штодзённа на працягу амаль трох тыдняў. З Расулам прыехала ў Карлавы Вары і яго любая Пацімат (дарэчы, Расула, згодна завяшчанню, і пахавалі ў родным Дагестане побач з магілай жонкі). Колькі тады было цікавых размоў! Колькі роспытаў! Пра Быкава, Танка, Адамовіча, справы ў беларускім Саюзе пісьменнікаў, у Беларусі ўвогуле... Таццяна Кабржыцкая тады нават у санаторыі перакладала для кіеўскай "Вітчизни" аповесць Васіля Быкава "Мёртвым не баліць", якую ў штыкі сустрэла саюзная афіцыйная крытыка (забягаючы наперад, скажу, што быкаўская аповесць хоць і з пэўнымі перашкодамі, але была надрукавана ў часопісе "Вітчизна", а ў 1990 годзе выйшла ў Кіеве і асобным выданнем). Гамзатаў хваліў аўтара аповесці і яго перакладчыцу за "прынцыповасць" і "смеласць". З захапленнем і нейкай нават замілаванасцю апавядаў пра "свайго" Шаміля. Я прыгадаў, як нам, беларусам, у свой час дапамог яго верш "Родная мова", прысвечаны роднай для паэта аварскай мове, з наступнымі радкамі (у перакладзе Н.Грэбнева):

*Кого-то исцеляет от болезней*
*Другой язык, но мне на нём не петь,*
*И если завтра мой язык исчезнет,*
*То я готов сегодня умереть.*

—О, каб Вы толькі ведалі, як на мяне за гэты верш акрысіліся рускія "патрыёты"! Тады ж якраз пачалася гаворка пра "адзіны савецкі народ", Хрушчоў вітаў беларусаў, якія "добраахвотна адмаўляюцца ад сваёй мовы"...

—Дык Вы і нас, беларусаў, мелі на ўвазе, абараняючы родную мову?

—А як жа! – упэўнена адказаў Расул Гамзатавіч.

У нашых размовах, часам і на кватэры Гамзатавых за бяседным сталом з чаем ці кавай (мацнейшага мы самі сабе не дазвалялі, каб не напсаваць лячэнню), прысутнічаў сяды-тады і рэдактар кіеўскага часопіса "Всесвіт" Алег Мікітэнка, з якім мы разам жылі ў санаторыі "Імперыял"...

...Прыгадаў тое-сёе, і ўсё роўна як пагутарыў з Расулам Гамзатавічам. А можа, і сапраўды ён пачуў гэтае маё беларускае слова. Не ведаю, як там у мусульман, а ў нас жа, хрысціян, лічыцца, што толькі пасля сарака дзён па смерці чалавека душа яго адлятае на неба. Але ж і пасля сарачын душа Расула Гамзатава, выяўленая ў бессмяротным паэтычным слове, будзе разам з намі.

**Вячаслаў РАГОЙША**

# НАРАДЖЭННЕ «НАДЗЕІ»

*Зорка незнаёмая гарыць...*
*Ты і я далёка зноў ад дому.*
*Паміж намі вёскі, гарады*
*І агні начных аэрадромаў...*

Так, так! Гэта радкі з вядомай і папулярнай некалі песні А. Пахмутавай і М. Дабранравава "Надзея". Толькі ў такім, беларускамоўным, варыянце яна не гучала ніколі. Пераклалі словы колішняга "шлягера" студэнты Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта, якія жывуць у інтэрнаце № 6, разам са сваім выхавацелем Марыяй Пятроўнай Трафімчук. І зрабілі гэта зусім невыпадкова, а рыхтуючыся да адкрыцця ў студэнцкім гарадку літаратурна-музычнай гасцёўні. Першай госцяй і "хрышчонай маці" згадзілася стаць вядомая наша спявачка, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Надзея Мікуліч. Пасля гэтага і прыйшла да руплівых гаспадароў думка назваць сваю гасцёўню "Надзея". І прыгожа, і дарэчы, і шматабяцаюча...

Вось і надышла пара доўгачаканай сустрэчы. У святочна прыбранай актавай зале інтэрната № 6, за ўстаўленымі пачастункамі сталамі сабралася ледзь не каля ста гасцей — студэнтаў, выкладчыкаў і выхавацеляў. Усе прыйшлі па спецыяльных запрашальных білетах моцна заінтрыгаванымі — дзіва што: у сценах альма-матэр такое адбывалася ўпершыню. Вядучая і арганізатар гасцёўні, выхавацель вышэйшай катэгорыі Марыя Трафімчук звяртае ўвагу гасцей на дэвіз першага пасяджэння "Мова мая, песня мая!", на шматлікія плакаты, дзе змясціліся выказванні класікаў роднай літаратуры пра мову. Да гасцей выходзіць кіраўнік студыі ігры на гітары "Срэбныя струны" Андрэй Лукашэвіч з песняй "Каб любіць Беларусь нашу мілую", яго змяняе студэнтка-першакурсніца Ганна Малькевіч...

Але сапраўдную хвалю апладысментаў выклікае з'яўленне самых дарагіх гасцей — артысткі Надзеі Мікуліч і яе сяброўак — кампазітара Тамары Саламян і паэткі Валянціны Ермалёнак. Прагучала нямала песень, напісаных у іх сааўтарстве, сярод якіх такія папулярныя, як "Мая адзінота", "Крошка-малышка". На "біс" былі ўспрыняты лепшыя "хіты" Надзеі Мікуліч "Госці мае", "Грэшніца-вясна", "Берага".

А. АСТРОЎСКАЯ,
выхавацель інтэрната № 6 БНТУ



## НАША ПЕРАМОГА

# НАЙПЕРШ РАТАВАЛІ ДЗЯЦЕЙ

***"Нямала я прачытала вашых выдатных кніг, за якія і я, і ўсе мы — вашы чытачы — глыбока вам удзячны. Ваш талент паказваць людзей у іх мінулым і сучасным выклікаў у мяне непераадольнае жаданне напісаць вам аб тым, з чым я сустрэлася яшчэ ў гады вайны, і гэта гісторыя мае адносіны да сучаснага.***
***У 1943 — 1944 гадах я каля года была ў Чувашыі ў горадзе Шумерля. Туды я адвезла да мамы сваю дачушку, а потым прыехала сама. Мая мама была настаўніцай, да яе часта прыходзілі яе сябры і знаёмыя, больш за ўсё педагогаў. Я ў той час не жыла разам з мамай, а працавала як эвакуіраваная ў калгасе ў 16 кіламетрах ад Шумерлі і да мамы прыязджала па меры таго, як у мяне назапашваліся прадукты для дачушкі.***
***У адзін са сваіх прыездаў я сустрэла ў мамы загадчыцу дзіцячага садка, які быў эвакуіраваны з Беларусі. Не ведаю, як дакладней яго назваць — ці то дзіцячы садок, ці то яслі, ці то Дом немаўляці: дзеці былі зусім маленькія. Расказ загадчыцы назаўсёды застаўся ў маёй памяці. І я не магу не расказаць яго вам, можа быць, калі-небудзь аб гэтым напішаце...***
***У першыя дні вайны было вырашана эвакуіраваць гэты дзіцячы сад у тыл краіны. Усё было падрыхтавана да ад'езду, а транспарту ўсё не было. І калі немцы былі ўжо зусім блізка, персанал вырашыў ісці пешшу. Склалі ў хатулі ўсё самае неабходнае для немаўлят, узвалілі паклажу на плечы, узялі на рукі па дзіцяці і накіраваліся ў далёкую дарогу. Дзяцей неслі не толькі дарослыя, іх неслі і дзеці персаналу, якія яшчэ і самі былі школьнікамі. Ішлі палямі, палявымі дарогамі, лясамі. Смаліла сонца, адольвалі камары, мошкі. Даводзілася начаваць і пад адкрытым небам. Немаўлят і бялізну мылі на прывалах. Людзі дапамагалі, чым маглі — то малака дадуць, то пялюшкі, то яшчэ чаго.***
***А наўздагон грымеў, насядаў фронт. Не памятаю, на які ўжо дзень выйшлі яны на дарогу і сустрэлі нашу воінскую часць. Камандзір выдзеліў машыну, і дзяцей адправілі ў Маскву, а адтуль у Чувашыю. Якія гэта былі цудоўныя людзі, работнікі дзіцячага садка! Выратавалі ўсіх дзяцей! Зразумела, мой расказ недакладны — прайшло столькі гадоў і столькі пражыта. Я ведала, што ў 1946 годзе эвакуіраваны дзіцячы садок знаходзіўся яшчэ ў Шумерлі. Дзе цяпер — не ведаю. ... Як добра было бы, калі б напісалі аб гэтым подзвігу доўгу і дабрыні..."***

**Андрэева В.Б.**

*Ленінград.*

**Бондарев Ю. Человек несёт в себе мир.— М., 1980. С.121-122.**

Такое пісьмо атрымаў вядомы пісьменнік ад сваёй чытачкі — В.Б. Андрэевай. Прозвішчы жанчын, здолеўшых вывезці дзяцей у сорак першым годзе ў далёкую Чувашыю, былі невядомы, вось пісьменнік і выказаў прапанову адшукаць праз гады сляды, як ён выказаўся "подзвігу і чалавечага абавязку і дабрыні". Наш расказ — аб ім, гэтым подзвігу.

Крыху гісторыі...

Полацкі дзіцячы дом імя К.М. Самойлавай быў створаны ў 1920 годзе і з'явіўся адной з першых такіх устаноў на Беларусі. Ва ўмовах разбуранага горада лепшае памяшканне было адведзена для дома груднога дзіцяці, куды паступалі сіроты, якіх трэба было вырасціць паўнацэннымі грамадзянамі краіны.

У пачатку супрацоўнікам прыйшлося пераадолець нямала цяжкасцей. Не хапала вопыту ў абслуговаючага персаналу. Санітарка Праскоўя Гаўрылаўна Васіленка, якая працавала ў доме з пачатку яго стварэння, успамінала пра гэтыя гады, як самыя цяжкія за ўвесь час работы. Але людзі браліся за працу з вялікім уздымам і энтузіязмам, замяняючы сіротам іх мацярок.

У дом дзіцяці прымаліся дзеці з дня нараджэння. За час свайго існавання і на канец 1945 года гэты дом выхаваў каля 2000 дзяцей. Уладзімір Іваноў, Аляксандр Мікалаеў, Патапава і другія былі ўдзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны, узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Перад вайной у свой родны дом прыязджалі на канікулы былыя выхаванцы Грыша Іваноў і Косця Аляксандраў — студэнты Ленінградскага медыцынскага інстытута. Іх сустракалі як дарагіх гасцей. Выхаванцы дзіцячага дома жылі і працавалі ва ўсіх кутках Савецкага Саюза.

І напярэдадні вайны дом груднога дзіцяці жыў паўнакроўным жыццём...

— Паліна Сяргееўна, што ж будзем рабіць?

Яна глядзела на вуліцу. Там нікога не было. Адны палачане пакінулі ўжо горад, другія хаваліся па дамах, — не верылі, што гітлераўцы ўварвуцца ў яго. Дракіна разумела: неабходна вывозіць дзяцей... Яе дочкі былі ў піянерскім лагеры, далекавата ад горада. А, можа, дабяруцца? Але ж, што чакае вось гэтых сто дзяцей, якія не маюць бацькоў? Калі яны застануцца тут, ды прыйдзе вораг, загінуць.

Паедзем, Лідачка, — сказала Паліна Сяргееўна, — ледзь стрымліваючы слёзы.

— Глядзіце, глядзіце! — раптам амаль закрычала Чарнуха.— Вашы Тамарка і Мая бягуць!

І сапраўды, у пакой забеглі яе дочкі: старэйшая Тамара і малодшая Мая.

Але, тады яна крыху супакоілася.



Выратаваннем дзяцей-сірот, сярод якіх было больш дваццаці грудных, перш за ўсё выпала на долю Паліны Сяргееўны Дракінай. Яна разам з урачом Лідзіяй Антонаўнай Чарнухай, кухарам Аніссяй Якаўлеўнай Слабковіч, медсёстрамі Верай Міхайлаўнай Шалімавай, Бертай Сямёнаўнай Свярдловай, нянямі Аніссяй Дзянісаўнай Саўчанкай, Ефрасінняй Масараўнай Наркевіч, Г.А. Бураковай і іншымі работнікамі Полацкага дома дзіцяці імя К.М. Самойлавай размясціла сто двух дзяцей на грузавых аўтамашынах. Паехалі на ўсход. Двойчы ў дарозе на машыныналяталі варожыя самалёты, але вадзіцелі паспявалі завярнуць у лес.

Калі пад'ехалі да вёскі Булаўкі, што кіламетрах у дзесяці ад Полацка, машыны, іх выдзелілі ваенныя, як і было дамоўлена, павінны былі вярнуцца назад — былі патрэбны абаронцам горада.

У вёсцы перапалоханых дзяцей накармілі сяляне, размясцілі ў школе. Але ўжо раніцай наступнага дня стала зразумела, што затрымлівацца тут нельга: недзе побач знаходзіўся нейкі ваенны аб'ект і фашысцкія лётчыкі раз-пораз наляталі на яго, а таксама абстрэльвалі вёску. Тады жанчыны хапалі дзяцей на рукі і беглі з імі ў лес. Пакладуць адных малых пад кусты — і адразу назад, за тымі, хто застаўся ў школе.

— Трэба выбірацца адсюль, — вырашыла загадчыца. Усе згадзіліся. Калгаснікі выдзелілі ім некалькі падвод. Пасадзілі ў іх большанькіх, грудных паклалі, і ноччу рушылі ў дарогу...

Тым часам дабраўся да дому з Крыма муж Паліны Сяргееўны Дракінай Сямён Паўлавіч. А дома — нікога няма. Пабег у дзіцячы сад — і амярцвеў: на месцы прыгожага некалі будынка была велізарная варонка...

За ноч прайшлі сорак кіламетраў, спыніліся ў Домніках. Пасцíралі ногі, стаміліся. І да ўсяго — зніклі тры маладыя дзяўчыны, якіх прынялі на працу перад самай вайной.

— Адсталі, можа, заблудзілі ? — трывожылася загадчыца.

— Ды не, мабыць, уцяклі. Яны яшчэ ў Полацку бурчэлі: што сябе, а не чужых дзяцей ратаваць трэба, — роспачна сказаў нехта.

Але, толькі ж мы дзетак не пакінем? — ужо трывожна спытала Паліна Сяргееўна.

— Ды ўжо ж...

Аднадушна вырашылі: сустрэць перамогу ўсім разам — 40 дарослым і 102 дзецям.

Тады ж паслалі шукаць машыны (а раптам пашанцуе) адзінага мужчыну — загадчыка гаспадарчай часткі Свярдлова. Дамовіўся з ваеннымі і старшынёй сельскага савета Антонам Мартынавічам Філіпавым: выдзелілі чатыры аўтамашыны, далі на дарогу прадуктаў, грошай.

Маршрут, як кажуць, пракладвала ўрач Лідзія Чарнуха. Перад вайной яна прайшла ў Віцебску кароткатэрміновыя курсы па ваенна-палявой хірургіі і навучылася працаваць з картай. 22 чэрвеня курсы былі распушчаны. Жонка кадравага афіцэра, Лідзія Чарнуха, вядома, магла вяртацца калі не ў Полацк, дзе яна працавала раней, то ў Оршу, дзе ў яе бацькоў заставалася дачка Іна, і якой не споўнілася яшчэ і годзіка. Але жанчына палічыла, што павінна застацца з чужымі дзецьмі.

Чарнуха сама "выкрасліла" з маршруту дарогу на Оршу, калі на шляху ўсё часцей сталі пападацца разбомбленыя чыгуначныя саставы. Вырашылі выбірацца з прыфрантавога пекла не поездам, а аўтамашынамі, ляснымі дарогамі. Вядомы імёны вадзіцеляў: Мікалаеў, Карпенка, Камароў, Шчукін. Лідзія Чарнуха казала тады Паліне Сяргееўне: "Калі я выратую гэтых малютак, нехта дапаможа маёй Іначцы..."

Дарога на ўсход аказалася і цяжкай, і доўгай.

— Аднойчы — успамінае Паліна Сяргееўна Дракіна, — сустрэлі чацвярых дзяцей. Яны спалі на ўзбочыне дарогі. Мы спынілі машыны. Дзецям было па 4—7 год. Разбудзілі іх. Дзеці былі моцна перапалоханыя. Аказалася, што яны з дзіцячага дома, з Фарынава. Яго бамбілі. А калі туды прыйшлі немцы, яны ўцяклі ў лес. І вось ўжо некалькі дзён ішлі па дарозе, не ведаючы куды ісці.

Накармілі іх: Лілю, Дашу, Толю і Марата. Узялі з сабой. Хворай была самая маленькая — Даша, але яе выхадзілі.

Сярод тых, каго ратавалі гэтыя людзі, было 20 груднога ўзросту хлопчыкаў і

дзяўчынак. Столькі ж — так званых хадунковых. Затым 35 дзетак ад двух да трох гадкоў. Крышку старэйшых — 18, і амаль столькі ж дзяцей работнікаў дзетдома. Увогуле ж узрост такі: ад двух месяцаў да чатырнаццаці гадоў. І ўсіх трэба дагледзець, накарміць, напаіць, памыць... Прадукты ёсць: выручаюць сяляне і вайскоўцы. Хапае і малака — вунь колькі жывёлы гоняць на ўсход, людзі дазваляюць даіць кароў. Кухар Ганна Якаўлеўна Слабкевіч, няня Анісся Дзянісаўна Саўчанка і Фруза Макараўна Наркевіч рабілі ўсё, каб накарміць дзяцей. Пастаянна сачылі за іх здароўем медсёстры Вера Міхайлаўна Шалімава, Берта Сямёнаўна Свярдлова і іншыя.

...Нарэшце праехалі Вялікія Лукі, Таржок.

У Цвяры дарогу ім перагарадзіла калона салдат. Нечакана сярод іх Паліна Сяргееўна ўбачыла свайго мужа Сямёна.

Кароткай была сустрэча, як след нават не пагаварылі.

На развітанне сказаў: "Трымайце курс на Волгу, а мы іх спынім..."

А праз гадзіну сустрэла аднаго знаёмага дырэктара дзетдома, які ішоў з жонкай і двума сваімі дзецьмі.

Спытала: "А дзе дзетдомаўскія?" Адказаў: "Не ведаю, распусціў іх. Ідзіце, кажу, вайна. Ды нічога з імі не здарыцца, вялікія ўжо дзеткі..."

"Вялікія"... Паліна Сяргееўна не можа спакойна глядзець на былога калегу, якому ў саракавым годзе перадала чарговую групу сваіх старэйшых выхаванцаў. Гэтым "вялікім" сёння ад шасці да дзесяці гадоў! Дзе ж яны?

Рушылі далей. І зноў паўсюль жыхары, воіны, мясцовыя ўлады давалі хлеб, крупы, тлушч, цукар. Усе ведалі, што Паліна Сяргееўна і яе таварышы ратуюць ад гібелі дзетдомаўскіх дзетак.

— З намі былі тры жанчыны-карміліцы,— расказвала пазней Паліна Сяргееўна, — і ўсё ж не хапала малака. І тут выручалі мясцовыя жанчыны. Але як не было цяжка ўвогуле, даехалі аж но да Ніжняга Ноўгарада. Адтуль па Волзе на параходзе "Вера Засуліч" даплылі да Чэбаксараў, а далей на фурманках і брычках дабраліся ў райцэнтр Казлоўка, у вёску Салдыбаева, дзе размясціліся ў школе. Канчаткова ўжо восенню абасналіся ў райцэнтры Шумерля.

Абжыліся трошкі, але неўзабаве стала відавочным, што, нягледзячы на дапамогу гараджан і падтрымку мясцовых улад, зімой будзе цяжка. Няма цёплай вопраткі. Няма нават змены бялізны. Але куды ты пойдзеш са сваімі бедамі — у Маскву, ці што? Але, вырашыла Дракіна,— туды! Не марудзячы накіравалася ў дарогу.

Дракіна вярнулася праз тыдзень. Прывезла рэчы, прадукты, медыкаменты, сярод якіх было і паўкілаграма сульфідзіна — ён у той час быў на вагу золата... Моцна ўзняла дух людзей гэта дапамога сталіцы: калі там клапоцяцца пра дзетдомаўскіх дзетак, значыць, краіна жыве!

А з дзецьмі клопату было — хоць адбаўляй. Галя Філіпёнак, напрыклад, так аслабла, што доўга ляжала ахутаная ватай: выхадзілі. Дужа хварэла Лора Шыманская і ёй давалі сваю кроў супрацоўнікі. Як і Дашы Даражынскай. Гэта маленькія. А старэйшым ужо трэба было вучыцца. Каб не пасылаць іх, слабых, у мясцовую школу, адтуль пачала прыходзіць М.Ф. Фёдарава, настаўніца — чувашка. Вучыла дзетдомаўскіх, правёўшы ўрокі ў Шумерлінскай школе. А неўзабаве мясцовыя жыхары З.С. Кукушкіна, З.В. Брацікава, Ю.А. Маліноўская, Вольга Іванова і Вольга Каракіна прыйшлі ў дзетдом на працу. І працавалі яны сумленна , заўсёды прыносілі з дому ежу і вопратку чужым дзецям. А Паша Кавальчук, Ніна Закрэўская, Надзея Кучына, жанчыны, у якіх былі свае грудныя дзеці, сталі карміць сваім малаком больш слабых дзетак. Паша — Віцю Сапегіна і Валіка Пракоф'ева, Ніна — Мішу Сакалінскага і Шурыка Іванова, Надзея — Барыса Іванова і Сашу Апельсінчыка. І адносіліся яны да гэтых чужых ім дзяцей, як да родных. Некалькі дзён плакала Надзея Кучына, калі адзін афіцэр-адстаўнік усынавіў яе Апельсінчыка. Капітан той хацеў узяць дзяўчынку, але як толькі Саша ўбачыў яго — адразу падпоўз, абхапіў за ногі: "Тата, татачка!" І былы воін заплакаў: "Сынок..." А тым часам на выхаванне ёй аддаў сваіх дваіх дзяцей работнік Шумерлінскага райкама партыі Ільмент, якога прызвалі ў войска: Розу і Гену. Не, не было ў іх сям'і чужых: усе свае, усе родныя.

А як жа было з уласнымі лёсамі работнікаў дзетдома? Па-ўсялякаму. Соладка нікому не было. Напрыклад, у Мікалаева дома ў Полацку засталіся жонка і дачка. Сумаваў. Спачувалі ўсе. Ці вось Галіна Арцёмаўна Бурлакова атрымала паведамленне, што прапаў без вестак яе муж. Суцешыла яе, сагрэла, адрадзіла надзею на лепшае шчырая спагада сяброў. Ніяк не магла адшукаць слядоў сваіх блізкіх Чарнуха — хтосьці з супрацоўнікаў даведваецца, быццам віцебская фабрыка КІМ, на якой працавала яе сястра, эвакуіравана на Ульянаўск. Напісалі туды па такім адрасе: "Фабрыка КІМ, парткам", маўляў, дапамажыце! І цуд , неўзабаве прыйшоў адказ! "Добры дзень, сястрычка! А мы ўсе думалі, што ты загінула. Тата, мама, Іначка засталіся пад фашыстамі, усё цябе чакалі і не паспелі выехаць.."

— Як жа вы там, мае родненькія? — у які раз перачытвае Чарнуха пісьмо ад сястры і глядзіць на газету "Правда", у якой паведамляецца пра масавае забойства фашыстамі старых і дзяцей у Шклове...

І сама Паліна Сяргееўна адчула, якія блізкія і родныя ёй усе гэтыя людзі... На ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 25-годдзю Чувашскай АССР, Дракіна была восьмай у спісе выступаючых. І раптам выклікаюць яе на трыбуну адразу пасля даклада. У чым справа? Зоя Ананьеўна Андрэева, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі была нешматслоўная:

— Вас чакае самалёт, хутчэй у Шумерлю !

Разам з Дракінай вылецеў таксама вядомы ўрач прафесар Осіпаў. Да апошняга моманту лічыла Паліна Сяргееўна, што захварэла пяцігадовая Зіна Зубінская. Высветлілася, што неадкладная аперацыя была патрэбна яе дачцы. Многія тады лічылі, што Маю выратаваў цуд. Але маці ведала: выратавала яе дачушку людская дабрыня. Зрэшты, і яна сама дабрынёй ратавала чужых дзетак. Ратавала, выходжвалі, гадавалі, расцілі, аддавалі цеплыню сваіх сэрцаў усім дзеткам: і тым, якіх прывезлі з Полацка, і якіх прынялі ў сваю сям'ю ўжо тут, у эвакуацыі. Усе чатыры суровыя гады ліхалецця...

...Пасля Перамогі, у верасні 1945 года, Полацкі дом дзіцяці вярнуўся ў Беларусь. Вярнуліся, як кажуць, у поўным саставе, што датычыць выхаванцаў. Спачатку размяшчаліся ў Глыбокім, а затым у Расонах.

...Ва ўтульнай кватэры Паліны Сяргееўны кідаецца ў вочы карціна: высокае і чыстае — бязвоблачнае неба, зялёны адбітак вясёлых бярозак у люстэрку ляснога возера, наезджаная дарога ў мяккім цені... Спакоем і прыгажосцю вее ад гэтых фарбаў. А яшчэ — мірам, які нясе ў сабе чалавек.

— Падарунак Валодзі Кандрашэвіча, аднаго з тых дзяцей, — кажа гаспадыня. — Цяпер ён на БАМе пейзажы піша. Добрым чалавекам стаў Валодзя. Якім і павінен быў стаць.

І працягвае. — Усе яны мне родныя, як і мае дочкі. Пісьмы пішуць і прыязджаюць. Галя Філіпёнак закончыла Полацкае прафтэхвучылішча і працуе ў Гомелі майстрам пашыву, Лора Шыманская — майстрам на Наваполацкім НПЗ, Галя Багатырова стала трактарысткай на Шаркаўшчыне, Бэла Свярдлова выкладае музыку ў Наваполацку, Зінаіда Рубчынская — работніца станцыі аўтаабслугоўвання, яна маці дваіх дзяцей. З Грузіі пішуць Леанід і Зінаіда Сахно. Два месяцы было Лары Мірман, калі ў яе памерла маці. Усю вайну яна выхоўвалася ў нашым Доме дзіцяці. Працуе інжынерам па вылічальнай тэхніцы. Эма Капусціна — інжынер-металург...З Алтайскага краю, з Бійска прыязджала яна з сынам Алегам. У гады вайны яна, чатырохгадовая дзяўчынка, прайшла ўвесь шлях з Домам дзіцяці з Полацка да Шумерлі.

Нямала хто з нашых выхаванцаў знайшоў пасля вайны сваіх родных і блізкіх. Так Лора Шыманская — маці, Эма Капусціна — сястру, Зінаіда Рыцікава — бацькоў, Даша Даражынская — маці і сястру. Цікава, Даша — на самай справе, гэта Ліля, адна з тых самых чатырох фарынаўскіх дзяцей, якіх мы знайшлі на ўзбочыне, калі ішлі з Полацка. Вядома, усім ім адшукаць бацькоў дапамагалі мы.

Паліна Сяргееўна паказвае пісьмы сваіх выхаванцаў. Вось, напрыклад, ёй піша Зінаіда Рыцікава: "...атрымала новую кватэру, прыйшоў са службы сын, рыхтуецца паступаць у інстытут. Ён перадае Вам віншаванні са святам Перамогі. Далучаюся да іх, хачу пажадаць бадзёрасці і многіх гадоў жыцця. А мы, выратаваныя Вамі дзеці, помнім пра Вас, вельмі любім і будзем несці далей усё тое добрае, чаму некалі Вы нас навучылі..."

У заключэнне скажу, што і Паліна Сяргееўна Дракіна і Лідзія Антонаўна Чарнуха працавалі з дзецьмі да таго часу, пакуль не пайшлі на пенсію. Першая загадвала ў Полацку дзіцячымі яслямі № 1, другая ўзначальвала калектыў Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы. Абедзве маюць узнагароды: ордэн Леніна Л.А. Чарнуха, П.С. Дракіна — ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга. Але, думаю, галоўная іх узнагарода — цеплыня і дабрыня сэрцаў выхаванцаў, якіх жанчыны выратавалі ў час вайны.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**



## літаратурны квартал

**30 кастрычніка на пасяджэнні "Літквартала" чыталіся новыя творы сяброў суполкі. На гэты раз гучалі вершы С. Патаранскага, Р. Малахоўскага, А. Ключнікава, І. Клепікава, Т. Будовіч, Я. Конева, З. Арцюха, Н. Кучмель, Г. Серахан, Ю. Новік, М. Кандратава, Т. Вабішчэвіч, В. Трэнас, Н. Хлапянюк, А. Спрынчан, В. Іванова, У. Гарачкі, Н. Кудасавай, Н. Капы і М. Шамякінай. Пераможцамі традыцыйнага "хіт-парада" — лепшых твораў з пачутага — сталі І. Клепікаў, З. Арцюх, Н. Кудасава і Ю. Новік.**

**На пасяджэнні "Літквартала", якое адбылося 6 лістапада, абмяркоўвалася творчасць Віктара Іванова, які піша ў нетрадыцыйнай форме. У сваіх выступленнях Р. Малахоўскі, А. Спрынчан, З. Арцюх, Н. Кучмель, Н. Капа, Ю. Новік, Т. Бесан, В. Трэнас, М. Кандратаў, А. Кавалеўскі, С. Мінскевіч і Т. Будовіч адзначыўшы лепшыя бакі творчасці В. Іванова, не прамінулі сказаць і пра тое , над чым яму яшчэ трэба працаваць. Як звычайна, па прапанове кіраўніка "Літквартала" Людмілы Рублеўскай, быў праведзены "хіт-парад" лепшых твораў, што былі прачытаны напрыканцы пасяджэння ўсімі сябрамі суполкі. На гэты раз пераможцамі сталі М. Кандратаў, С. Мінскевіч і А. Кавалеўскі.**

**"Літквартал" збіраецца кожны чацвер у памяшканні "ЛіМа" ў 18 гадзін.**

**ФЕСТЫВАЛІ**

# «ВОСЕНЬ» З...

Трыццаты па ліку традыцыйны міжнародны восеньскі фэст пройдзе, як заўсёды, з музыкай. А яшчэ – у кампаніі з беларускімі кампазітарамі. Таму што юбілей фестывалю "Беларуская музычная восень" супаў з юбілеем, 70-годдзем, Саюза кампазітараў краіны. Ёсць і яшчэ адна важная дата, адзначыць якую планавалася менавіта падчас фестывалю: 90-годдзе з дня нараджэння класіка беларускай музыкі, патрыярха нацыянальнага мастацтва Анатоля Багатырова, які, дарэчы, у свой час быў і старшынёй Саюза кампазітараў, узначаліўшы яго ў 26-гадовым узросце. Свой юбілей сустрэў ён у жніўні. А вось дажыць да ўрачыстага публічнага святкавання А.Багатырову, на жаль, не давялося. 90 гадоў з дня нараджэння легендарнага кампазітара адзначацца будзе ўжо без яго.

20 лістапада канцэртам, прысвечаным памяці народнага артыста краіны прафесара Анатоля Багатырова, пачнецца Міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень". У выкананні вядучых дзяржаўных акадэмічных калектываў Беларусі — сімфанічнага аркестра і харавой капэлы імя Р.Шырмы, а таксама лепшых нашых салістаў прагучаць Другая сімфонія, кантата "Беларускія песні", арыі з опер "У пушчах Палесся" і "Надзежда Дурава". Дырыжыраваць праграмай будзе маэстра Міхал Казінец. Гэты, самы першы канцэрт "Восені", адбудзецца ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета.

На розных пляцоўках сталіцы ды ва ўсіх абласцях краіны пройдзе фестываль. Будзе нямала імпрэзаў з удзелам замежных музыкантаў, ды ўсё ж вылучацца сёлета, бадай, музычныя вечары з праграмамі, прысвечанымі юбілею Беларускага саюза кампазітараў. Сачыце за нашай далейшай інфармацыяй!

С.Б.

# ВЕЦЕР З БЫЦЕНЯ

Ці думаў быценец, які насіў мянушку Вецер, калі выбіраўся ў 1920-я гады на заробкі ў Нью-Йорк, што прывязе адтуль бібліятэку рускага графа? Чаму, жывучы з эканоміі ў бочцы, працаўнік-наборшчык амерыканскай друкарні патраціў іх на кнігі? Як сталася, што пасля смерці Ветра, яго кнігазбор, якім карысталіся многія быценьцы, быў пушчаны амаль на вецер? Ці прадбачыў мясцовы бібліяфіл, што выратуе кнігі, перавезеныя ім з-за акіяна, ад поўнага знішчэння яго ж зямляк, імем якога назавуць адну з вуліц у іх Быцені?




Так, дзякуючы Мікалаю Міхайлавічу Грынчыку жыццё гэтых з няпростым лёсам кніг працягваецца: імі карыстаюцца ў сваёй працы студэнты, выкладчыкі, пра іх расказваюць на экскурсіях, гутарках і лекцыях у аддзеле рэдкай кнігі бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры, дзе ім знайшлося ганаровае месца. Яшчэ пры жыцці, калі Мікалай Міхайлавіч працаваў загадчыкам кафедры беларускай мовы і літаратуры ў БДУ культуры, ім былі падораны ў аддзел рэдкай кнігі бібліятэкі, які толькі пачалі ствараць, болей 30 каштоўных выданняў.



Менавіта прыватны кнігазбор, як казаў Дз.Ліхачоў, — гэта "помнік, які адлюстроўвае асобу яе ўладальніка, яго веды, густы, духоўныя і практычныя патрэбы, нарэшце проста манеру зносін з кнігай, манеру яе набываць, выкарыстоўваць, а іншы раз і разлучацца з ёй: дорачы, прадаючы, перадаючы, кідаючы або пакідаючы ў нядбайнасці... Бібліятэка ўтрымлівае ключ да разумення жыцця і дзейнасці ўладальніка".

Сёлета, у 80-гадовы юбілей М. Грынчыка яго жонкай Любоўю Аляксееўнай і сынам Мікалаем Мікалаевічам былі ахвяраваны ў аддзел рэдкай кнігі бібліятэкі Беларускага універсітэта культуры, дзе ўжо існуе асобная калекцыя кнігазбору прафесара, яшчэ каля 1500 асобнікаў з яго бібліятэкі. Сярод гэтых кніг 362 асобнікі з аўтографамі Міколу Грынчыку.

21 кастрычніка ў чытальнай зале бібліятэкі была арганізавана выстава "Бібліятэка М.М. Грынчыка", дзе экспанаваліся не толькі цікавыя асобнікі з аўтографамі, але і такія унікальныя выданні як "Дыялекталагічны атлас беларускай мовы" (Мн., 1963), "Беларускі народны арнамент" (Мн., 1953), "Fair Land of Byelorussia [Анталогія сучаснай беларускай паэзіі на англійскай мове]" (М., 1976), "Z zagadniec wersyfikacji polskiej" S. Furmanika (Warszawa, 1956), "Paralele" (Warszawa, 1961), "Nauka o literaturze" (Wroclaw, ect., 1966), "Neoromantyzm polski, 1890—1918" (Wroclaw, ect., 1963) J. Krzyianowskiego і іншыя. На выставе былі размешчаны фотаздымкі з сямейнага архіва, а таксама здымкі, зробленыя падчас апошняй паездкі на радзіму Мікалая Міхайлавіча Грынчыка, у Быцень.

Лора ДОЎНАР

**19 лістапада** гэтага года ў БДУ культуры адбудуцца навуковыя чытанні **"Грынчыкавымі сцежкамі"**, прысвечаныя 80-годдзю з дня нараджэння вядомага літаратуразнаўцы.

Просім адгукнуцца ўсіх, хто добра ведаў М.М.Грынчыка, каму ёсць што ўспомніць і сказаць пра яго як вучонага-філолага, выкладчыка і настаўніка, сябра і земляка.

Звяртайцеся ў аддзел рэдкай кнігі бібліятэкі Беларускага універсітэта культуры.

КРЫТЫКА

## «СВАЕ НАМ ЗОРКІ — ШЛЯХІ ПАКАЖУЦЬ»

Неяк у Мінску з Уладзімірам Ягоўдзікам гасцявалі ў ягонага сваяка, кандыдата матэматычных навук. Гаспадар паказваў свае творы: адны ў кніжцы ў выглядзе бясконцых формул і ўраўненняў, другія ў сшытку — вершамі, што хаваліся ад асуджальнага жаночага вока. У першых мы цямілі мала глыбей, чым у іерогліфах, з другіх, просценькіх і наіўных, пасміхаліся, аднак толькі краёчкамі губ. Для матэматыка вершаванне было і свежым паветрам, і насалодаю душы, і,як ён выказаўся, засцярогаю ад вар'яцтва. І тым не менш, пры ўсёй да яго павазе, заняткам другасным, неабавязковым і лёгка замяняльным тэнісам, рыбальствам або збіраннем грыбоў.

Згадалася гэта, калі ўпершыню натрапіў на вершы самавітага нашага гісторыка Міколы Ермаловіча. Яны былі надрукаваны ў "Полымі" густа, аднак неакцэнтавана, без прадмовы ці пасляслоўя. Грэшна падумалася: што ж, з абавязку перад памяццю заслужанага чалавека ўшанавалі і вершаваную спадчыну. Гістарычная навука, як і паэзія, рэч гуманітарная, але ў ёй, бы ў той матэматыцы, процьма лічбаў, своеасаблівых формул і галаваломак, дык чаму ж і не ўцякаць час ад часу ў вершы? Пасля павінаваціўся, бо ў Ермаловічу-гісторыку нечакана адкрыў Ермаловіча-паэта.

Заглыбленасць у гісторыю, вядома ж, паклала адбітак на тэматыцы і стылістыцы вершаў, некаторыя з іх выдаюць на архаічныя, нібыта пісаліся ў канцы XIX — пачатку XX стст. Аднак вершы вартасныя, праўдзівыя. Душа аўтара жыла, балела радзімаю, адсюль і вызначальны матыў, паяднаны з матывам асабістага выбару: "Звергну я далоў паганых ідалаў з трону ўладароў маёй душы". Аддаласць нацыянальнай ідэі і нацыянальнай традыцыі — "каб стала светлазараню паходняю песня" — для М. Ермаловіча актуальная патрэбнасць. Паэзія для слыннага гісторыка была не пабочным занятакам, а патрэбай выказаць эмоцыі, гарачыя і верадлівыя, але не надта прыдатныя для навукі. Як сведчыць і пра ўсведамленне аўтарам эстэтычнай самадастатковасці паэзіі.

### ТВАРЭННЕ СЛОВАМ, ТВАРЭННЕ СЛОВА

Чытаючы вершы Ніны Мацяш апошніх гадоў, заўважаю новыя, а дакладней — больш выразна праяўленыя рысы яе сталага творчага майстэрства: узбуйняецца метафара і паглыбляецца асацыятыўнасць, разнявольваецца і мадэрнізуецца формабудова, ускладняецца сінтаксіс і ўзбагачаецца лексіка. Яна творца не толькі верша, а і самога слова, яго сэнсавых і стылёвых адценняў. Мова таму і развіваецца, што філосафы і паэты пастаянна і няўхільна намагаюцца абвергнуць вядомае сцвярджэнне: выказаная думка (як і выражаная словам пачуццё) ёсць мана.

З навативораў Н. Мацяш дбайны філолаг мог бы скласці ладны і цікавы слоўнік: "адважнік", "адтаемніць", "адхмарвацца", "капючына", "прыластаўчыцца", "чуйнар" ("душы маёй чуйнар"). Гэта толькі некаторыя залацінкі і толькі з аднаго, невялікага аб'ёмам зборніка "Палёт над жытам". Чуйнасць да слова, адчуванне яго глыбіні і гнуткасці, схільнасць і ўменне абнаўляць змест і гучанне асабліва прыдаліся паэтцы ў працы над перакладамі французскай лірыкі XVI ст. — лірыкі Плеяды (зборнік "Багаславі сустрэчу мне..."). Яе аўтарскі слоўнік папоўніўся значна, ці не ў адпаведнасці з тым, як сваю мову ўзбагачалі французскія паэты. Не пасіўны, стваральны падыход да магчымасцяў беларускай лексікі дазволіў перакладчыцы годна перадаць мастацкія вартасці класічных устойлівых форм верша, пераважна санета.

Навізною ў перакладах адсвечваюць такія словы, як "агнець", "дабраяўнасць", "карыстанец", "няведамнасць" (замест звыклага, але не зусім беларускага "нязнанасць"), "салодкагорлы" (пра жаўранка), "упаляванак" (здабыча паляўнічых), а таксама словазлучэнні-ідыёмы "спяшацца што ёсць ног", "сіпацей ад сіраты", "хлусня з крутнёй". У кантэксце твораў рэдкаўжывальныя словы і аўтарскія неалагізмы гучаць ёміста і натуральна:

*Усемагутны Бог, дай мне ўвабраць душой*
*Тваёй **вялікаснасці** хоць малую долю,*
*У сэрца мне **ўтаўруй** Тваю святую волю,*
*Каб зберагчы агонь духоўнасці маёй!*

Не стану, аднак, перабольшваць. Тварэнне слова, як я разумею, не самамэта і не знарочыстыя працэс, нездарма аўтарскія неалагізмы ў моваведстве называюцца аказіяналізмамі (у перакладзе з лацінскай — выпадковасцямі). Цяга да абнаўлення ўхвальная, аднак ці заўсёды апраўданая і плённая? Стылістычна афарбаваны дыялектызм "мушля" недарэчны, на мой погляд, у спалучэнні са словам "музыка" ("мушля музыкі"). Не ў набытак з-за сваёй немілагучнасці прыслоўе "гойна" (сугучнае з процілеглым "гнойна"), якое Ніна Мацяш ужывае следам за Рыгорам Барадуліным. Штучнымі падаюцца некаторыя яе ўласныя наватворы: "ашукны" (ці не лепш "падманны"?), "выгарбкі" (узгоркі), "злюб" (душаў злюб"), "звышпланечаны", "сызнебны" і інш. Непрыстасавана пачуваецца ў багатай аўтарскай мове шэраг запазычанняў, без якіх можна лёгка абыходзіцца: русізмы "канчына", "нагрaмаджаць", "тропатна", украінізм "забуць" (назоўнік з націскам на першым складзе), паланізм "споміж".

Як вядома,словатворнасць была вельмі характэрная для беларускай паэзіі 20—30 гг. мінулага стагоддзя, калі маладыя аўтары навыперадкі канструявалі і вар'іравалі "рэвалюцыйную" лексіку: "бурапеністы" і "буравейны", "сонцатканы" і "сонцакрылы". Ёсць такая тэндэнцыя і ў нашых сённяшніх авангардыстаў. Як здабыткі, так і выдаткі папярэднікаў мусяць засцерагаць іх ад знарочыстасці і зададзенасці.

Застаюцца ў актыве мовы неалагізмы натуральныя, змястоўныя і выразныя, народжаныя, бясспрэчна, на роднай глебе: "адлюстроўваць" (У. Дубоўка), "знявераць" (Р. Барадулін), "нехацімец" (А. Куляшоў), "скурганіць" (Я. Купала). У гэтым шэрагу ёсць месца і лепшым наватворам Н. Мацяш.

### НЕДАСВЕДЧАНАСЦЬ ЦІ ЗВАЖАННЕ НА «ПРЭСТЫЖНАСЦЬ»?

Захапіўся, як у дзяцінстве, і ледзь не цэлы дзень смакаваў аповесці-казкі Алеся Бадака, вабныя насычанасцю сюжэтаў, паяднанасцю традыцыйных і сучасных вобразаў, відавочнай адрасаванасцю — у перспектыве — не толькі беларускаму чытачу. Засмуціла-раздражніла аднак... прадмоўка да казкі "У цёмным лесе за сіняй рэчкай". У ёй, "амаль неабавязковай прадмове", — як па мне, дык зусім неабавязковай, — аўтар нібы выбачаецца за даўно не новую тэму — краса і пачварнасць (агіднасць), называючы пршакрыніцы: творы Аксакава, французжанкі дэ Бамон, дыснэеўскі мультфільм. І — ані згадкі, ані здагадкі пра тое, што і нашай літаратуры гэты матыў не чужы, балазе яна калі не выключна вырасла на фальклоры, дык моцна абапіралася на яго. Адно ў казках, сабраных Аляксандрам Сержпутоўскім, нямала варыяцый таго адвечнага, чым, нібыта, здзіўлены сучасны пісьменнік-казачнік: нахай за пакутніцтва і высакароднасць, але — "пакахаць Пачвару?"

Дык што ў "неабавязковай прадмове" — недасведчанасць у нацыянальных вытоках ці "непрэстыжнасць" спасылацца на іх? Між тым параўноўваю Алесеву казку з народнаю — "Любошчы", запісанаю Сержпутоўскім ад Рэдкага.

У Бадака: "Яна гладзіла яго па густой поўсці і шаптала: "Ну адзавіся! Я не хачу, каб ты паміраў! Ты такі харошы". Ён усхапіўся з падлогі... перакуліўся цераз галаву і... тут жа ператварыўся ў чалавека".

У Сержпутоўскага — Рэдкага: "Сама няведама зачым схапіла яна страшэннага чалавека за галаву да й пацалавала. У той момант абярнуўся ён у гожага каралевіча".

Вось табе і Аксакаў з дэ Бамон на пару! Зразумела, і недасведчанасць кепска, але горш у такіх выпадках — менталітэтная наша сціпласць-сарамлівасць. Да якога часу будзем "прыбядняцца"?

Алесь КАСКО



# СІЛА І ДАТКЛІВАСЦЬ

КРЫТЫЧНЫЯ ЭЦЮДЫ

### РАПІРА ДЛЯ САМААБАРОНЫ (СПРОБА АЎТАРЭЦЭНЗІІ)

"Цябе хваляць, а ты незадаволены"... Не задаволены. З усяго напісанага пра маё вершаванне лічу найбліжэйшым да мяне артыкул берасцейскай настаўніцы Галіны Гедзік пад сутнаснай назвай "Скрыпка і рапіра". Яшчэ дакладней было б сказаць: і скрыпка, і рапіра. І — і, так слугаваў і слугуе музе шмат хто ў нашай краіне.

Неаднабакова і непрадузята адгукаліся на той ці іншы мой зборнік паэты Л. Галубовіч, В. Гардзей, Н. Гілевіч... Прафесійная ж заакадэмізаваная крытыка мяне ўжо даўно раздражняе. Вось і чарговы артыкул — ён у "Маладосці" — я "счарніў" пытальнікамі з клічнікамі ды крыжамі. Спрэс — "грамадзянскі" паэт, ваяр, ледзь не Кастусь Каліноўскі! Хоць вазьмі ды паглядзіся ў люстэрка: няўжо? А між тым я глыбока перакананы, што сам па сабе ніякі грамадзянскі, патрыятычны пафас не можа падмяніць мастацкасці твора, да таго ж уласны душэўны свет эгаістычна лічу асноваю і галоўным матывам любога верша.

Аўтар артыкула амаль не робіць спробы даць ацэнку паэзіі як такой, як рэчы эстэтычнай, ігнаруе "чыстую" лірыку, якой бы строгай крытыкі яна ні заслугоўвала. Асабліва крыўдна, калі адвечныя матывы і вобразы сілком укладваюцца ў пракрустава ложа зададзенасці, абранай крытыкам. Алегорыя позняга кляновага ліста, немаўляці, метафізічна асуджанага на смерць, інтэрпрэтуецца як "безабаронны праўдалюбца" (элегія "Лісцік"), пакуты творчага рамяства, пранікнення ў таямніцу слова штучна ўздымаюцца да памкненняў "бараніць ідэі справядлівасці, свабоды" (верш "Я пакуты шукаў, як збавення..."). Такая неадэкватнасць, паўтаруся, для мяне, аўтара, крыўдная — насуперак высакароднай спакусе праслыць "паэтам-змагаром", "паэтам-трыбунам", "прадаўжальнікам купалаўскіх традыцый", як зычыць мне шаноўны крытык. Суб'ектыўнасць суб'ектыўнасцю, але ж не ў такой ступені.

Вядома, не адмоўлюся і надалей ад грамадзянскіх матываў, для мяне поўны абсурд — гнаць іх прэч. Што на душы, тое і на кончыку пяра, калі дасца натхненне. І ўсё ж мару пра выданне хоць невялікай кніжыцы менавіта "простай", сацыяльна незаангажаванай лірыкі — з "Адляваннем", з "Чорным хлебам варону кармлю...", "Зноў я дома, дома, дома..." Словам, зборнічка вершаў, дзе менеей за ўсё быў бы чуцён звон гартаванага металу. Ці і тады, паводле старой завядзёнкі, выхаваная на "савецкіх традыцыях" крытыка пачне шукаць нейкага там пафасу?..

## ГАМАНЛІВАЯ РЫБА, АЛЬБО НА ШТО РАКА ПАЭЗІІ НЕ АБЯДНЕЕ

Дзве відавочныя прыкметы крызісу, якія перажывае сёння паэзія. Першая — неахвотна і млява, без творчых успляскаў пішуць, а то і зусім змаўкаюць прафесіяналы, затармазілі пошукі, затапталіся на месцы маладыя "постмадэрністы". Другая, полюсна звязаная з першай, прыкмета — небывалае ажыўленне так званай масавай паэзіі, інакш графаманскай, у якой поўна і прымітыву, і двухсэнсоўнасці, і моўных скажэнняў. Манія пісаць і праславіцца калі не ва ўсім народзе, дык у купе народу хлынула ў плынь паэзіі, не раўнуючы як драбяза ў абязрыбленую раку. "І на золку ўзлятаюць над рэчкай гаманлівыя птушкі і рыбы", — знайшоў я пацвярджэнне ў аўтара з гэтых самых "свежых сіл". Не скаваных ні супярэчлівым часам, ні бядотным станам роднай мовы, ні творчымі дэпрэсіямі. Кніжак сёння — што ікры ў нераст, бо іхнія напісальнікі не толькі шматплодныя, а і прабіўныя, яны каго хочаш могуць угаварыць раскішэніцца. Напрыклад, вось гэтая кніжка з сонцам і каласамі на вокладцы распаўсюджвалася цэлымі стосамі; вершы ў ёй правільныя, патрэбныя — пра герояў працы і ветэранаў вайны. Працытуем пра апошніх:

*Позалезали в щели тараканы,*
*Не видно их в обставленных домах.*
*Лишь ночью, когда дремлют*
*ветераны,*
*Они кишат в сервантах и шкафах.*

Пра амбітнасць аўтараў сведчаць назвы іхніх зборнікаў. Гэта знакамітыя паэты бралі ў назвы сціплыя, зямныя словы: вянок, жалейка, камень, рунь. Не раўня яны сучасным класікам! "Касмічныя сігналы", "Зіма тысячагоддзя", "Апошні лірык"... Думалася, мо і вершы апошнія? Аднак "лірык" выдаецца і выдаецца. Адкуль чэрпае натхненне? Цытую:

*Из прошлых своих воплощений*
*Черпаю темы и слова*
*Для будущих стихотворений.*

Ён жа і настаўляе сумніўцаў: "Пісаць заўсёды і пры любых абставінах". З такім крэда падобныя да яго "лірыкі" яшчэ доўга будуць цешыцца самі і пацяшаць нас. Сярод іхніх "пацешак" трапляюцца і складаныя, можна сказаць, філасофскія матывы: "И рвет мне череп изнутри шальных, запретных мыслей рой". Ёсць арыгінальныя перапевы класікі: "Выходил один я на дорогу, а теперь уже не выхожу". Мала патрыётыкі? Калі ласка: "Зямлі я дзякую за тое, што тапчу яе нагамі". Або пра мілагучную родную мову: "Гучанне слоў яе жывых калоціць кроў і галаву".

"Пацешкі" тыражуюцца, распаўсюджваюцца, публічна прэзентуюцца. Мала гэтага, у гора-аўтараў з нядаўняга часу з'явілася завядзёнка рассылаць свае гора-кніжкі прафесійным літаратарам з тым намёкам, што і яны выспелі для прыёму ў Саюз пісьменнікаў. Адсюль, у прыватнасці, і ў мяне нямала такіх зборніку. З іхняга зместу можна ў сваю чаргу скласці зборнік выбраных перлаў, накшталт:

*Я цяпер, як ноч настане*
*І спачнеш ты ў ціхім сне,*
*Абмяркоўваю пытанне:*
*Як даць драпа па вясне?*

Вось вам і рыба на бязрыб'і! І не пераканаеце: маўляў, такія падборкі не ствараюць надвор'я ў літаратуры. Наўрад ці на гэта яны прэтэндуюць, аднак жа патрапляюць уплываць на густ чытачоў і плодзяць новых графаманаў, дастаткова ўчытацца або ўслухацца ў вершы-віншаванні ў перыферыйных газетах, на радыё і тэлебачанні: "Мая мілая сяброўка, як ішла ты да вянца, то была адна гамонка, што ты будзеш без канца..." Так яно і надалей будзе, калі: а) будзе і надалей запавольвацца плынь сапраўднай паэзіі, б) будуць патураць графаманам рэдактары — часам па-зямляцку ці па-сяброўску, а часам дзеля рубля, в) не будзем адгукацца на "гаманлівую рыбу" крытыкай.

**P.S. Свядома не называў імёнаў; папершае, аўтары пры жаданні лёгка знойдуць уласныя, працытаваныя мною радкі і самі, па-другое, імёны звычайна называюць тады, калі яны сапраўды — імёны.**

**ВІНШУЕМ!**



***10 лістапада споўнілася 70 гадоў Івану ЛАШУТКУ. Віншуючы нашага даўняга чытача і аўтара з юбілеем, жадаем яму і надалей добрага творчага настрою і плёну.***

**Іван ЛАШУТКА**

•

*Мы пройдзем па летніх лугах,*
*Дзе белых рамонкаў святло.*
*Мне годы, як травы ў стагах,*
*Напомняць усё, што было:*

*Вясновай вясёлкі крыло*
*І восеньскай ростані клін,*
*І, можа, апошнім цяплом*
*Сагрэюць далёкі ўспамін.*

*Гады нашы — з намі заўжды,*
*Як бэз каля хаты ў двары,*
*Што кліча к сабе і тады,*
*Калі ўсё ў душы адгарыць.*

*Дык пройдзем па летніх лугах,*
*Бо я тут далёка не госць,*
*Тут рэхам гукае ў лясах*
*Твая і мая маладосць.*

**ДАНІНА ПАВАГІ**

***Мікола Засім — самабытны паэт. Яго паэзія ідзе ад жыцця, заснавана на рэаліях часу, вылучаецца праўдзівасцю. А гэта, як вядома, вымагае ад паэта грамадзянскай мужнасці. Першыя свае вершы Мікола Засім пачаў складаць у турме, куды семнаццацігадовага юнака пасадзілі польскія ўлады за ўдзел у рэвалюцыйным руху. Ён быў сынам беднага беларускага селяніна. Вось як паэт сам пісаў пра сябе ў вершы-звароце да ўдзельнікаў з'езда заходніх беларускіх пісьменнікаў, што адбыўся ў Вільні ў 1933 годзе:***

*Гэй, паэты вёскі й поля,*
*Я ваш сябра — Засім Коля,*
*З-пад Пружанаў, з вёскі Шэні,*
*І ў мяне, браты, у кішэні*
*Часта грошай брак на марку,*
*Рэдка ў страве бачу скварку...*

# КОЛЯ ЗАСІМ

**Да 95-годдзя Міколы ЗАСІМА**

**Лірычны герой яго вершаў, як справядліва адзначыў Уладзімір Калеснік, "гутарыць з сялянамі-землякамі як свой чалавек са сваімі людзьмі, ён узбуджаецца і разварушвае "масавыя" пачуцці слухачоў, весяліць іх і вучыць прыкмячаць у смешным сур'ёзнае, балючае, палкае". Можа, з пункту погляду сённяшніх патрабаванняў вершам Міколы Засіма не ставала культуры слова, але яны былі праўдзівымі і надзённымі. Дарэчы, ён і сам разумеў гэта:**

*Мо яно й нязграбна,*
*Ды затое ёмка.*
*Верш каструбаваты,*
*Як з пянькі пастромка:*
*Плуг зачэпіш, — цягне,*
*Не пакіне ззаду*
*Й на пятлю згадзіцца*
*Дзе якому гаду.*

**Пасля ўз'яднання Беларусі Мікола Засім быў абраны старшынёй Шэнеўскага сельсавета. Але з паэзіяй не расставаўся — службовыя абавязкі сумяшчаў з літаратурнай дзейнасцю. У 1940 годзе яго прымаюць у Саюз пісьменнікаў.**

**Нядоўгім было мірнае жыццё. Грымнула Вялікая Айчынная вайна. Паэт разумее сваё прызначэнне ў такі цяжкі для Радзімы час:**

*Пісаць пра волю — гэта мала,*
*Без справы слова — гэта грош.*
*Трэ, каб адна рука дзяржала*
*Пяро, другая — востры нож.*

**Мікола Засім ідзе ў партызанскі атрад, удзельнічае ў дыверсіях і баях. Ён знаходзіцца ў самым віры трагічных падзей. Гітлераўцы расстралялі яго бацькоў, вывезлі ў рабства яго сястру. Але фашысты не змаглі зламаць яго волі да барацьбы:**

*Не застрашыце нас, каты,*
*Ні расстрэлам, ні пятлёю,*
*За кроў маткі, за кроў таты,*
*Сваю помсту я ўтрою.*

**З Міколам Засімам мне давялося пазнаёміцца ўжо пасля вайны, калі разам працавалі ў брэсцкай абласной газеце "Заря": ён — літсупрацоўнікам, а я — уласным карэспандэнтам. Да гэтага часу ён ужо выдаў зборнік вершаў "Ад шчырага сэрца". Калі я прыязджаў у рэдакцыю "Зари" з Лунінца, дзе тады жыў, то ніколі не мінаў кабінета Міколы Засіма. Удакладнялі з ім планы асвятлення ў газеце пытанняў культурнага жыцця раёнаў, за якімі я быў замацаваны. Абавязкова гутарка заходзіла пра літаратуру. Некаторыя Міколавы вершы ў той час былі, як кажуць, на слыху. Яны вылучаліся вобразнасцю, жывой гутарковай мовай. Вось радкі з верша "Мінскі зубр", якім адгукнуўся паэт на выпуск першых самазвалаў Мінскага аўтамабільнага завода:**

*Стаў, павер, гара нібы,*
*Аж прыцемрыў ранак.*
*Колы тыя, як дубы,*
*Гнутыя ў баранак.*
*Аж дзівуе дзед стары,*
*Стаўшы сярод вёскі:*
*Белавежскія зубры*
*Гэтаму — ў падноскі.*

**Калі Мікола сам адчуваў, што верш атрымаўся ўдалы, ён не прамінаў выпадку падзяліцца радасцю з суразмоўцам.**

**— Вось паслухай, што я напісаў, — гаварыў ён мне пры чарговай сустрэчы. З задаволенасцю, што свяцілася на ягоным твары, ён прачытаў верш "Родная зямліца":**

*Мая пружанская зямліца!*
*Твае палі і сінь нябёс*
*Мне будуць бачыцца і сніцца,*
*Куды б мяне ні кінуў лёс.*

**І хоць у вершы згадваецца час, калі на гэтай зямліцы паэт "касіў чужую сенажаць, дзе потым першы раз умыўся, як памагаў каню араць", ён прызнаецца ў сваёй любові да яе:**

*Павер мне, мой бацькоўскі краю,*
*Як песні пра цябе пяю,*
*Здаецца мне — я засяваю*
*Насеўкам родную зямлю.*
*Мая ты родная зямліца!*
*Хто палюбіў цябе навек,*
*Таму ты — творчасці крыніца,*
*І той - шчаслівы чалавек.*

**— Добры верш, — гавару я.**

**— Ён будзе жыць, — упэўнена кажа Мікола.**

**Праўда, не заўсёды так атрымлівалася. Паэт бачыў сур'ёзныя недахопы ў штодзённым жыцці — беднасць людзей, бюракратызм дзяржаўных чыноўнікаў, несправядлівасць, а ад яго патрабавалі твораў пра багацце і харавство душы будаўніка камунізму. Паэта, звыклага пісаць праўду, гэтае патрабаванне заводзіла ў тупік, удача да яго прыходзіла ўсё радзей і радзей.**

**Аднойчы мы сустрэліся з ім у Давыд-Гарадку. На той час гэта быў перадавы раён Брэсцкай вобласці.**

**— Рэдактар загадаў напісаць верш пра лепшых даярак калгаса імя 17-га верасня, — патлумачыў мне Мікола Арцёмавіч мэту сваёй камандзіроўкі. Па ўсім відаць, што гэтае заданне не выклікала ў паэта натхнення — не мог Засім пісаць па загадзе. Павесялеў ён толькі тады, калі мы зайшлі ў раённую бібліятэку, дзе ў свежым нумары часопіса "Новый мир" прачыталі яго вершы ў перакладзе Аляксандра Твардоўскага. Знакаміты рускі паэт абы-каго не перакладаў.**

**Пэўна не магу сцвярджаць, але, здаецца, верш пра "лепшых даярак" так і не з'явіўся на старонках "Зари". Такая "недысцыплінаванасць" выклікала незадаволенасць у начальства — Міколу "прабіралі" на рэдакцыйных лятучках. Прыгадваецца такі выпадак. Аднойчы я прыехаў у рэдакцыю са сваім калегам Аркадзем Кукарэкам, каб атрымаць чарговае заданне. А яшчэ трэба было здаць у бухгалтэрыю камандзіровачныя лісты, атрымаць аванс. Для гэтага патрабаваўся подпіс рэдактара Чарняўскага. Сакратарка ў прыёмнай папрасіла нас крыху пачакаць:**

**— Там у рэдактара — Мікола Засім. З ім вядуць размову члены рэдкалегіі.**

**Чакаем. І вось Мікола выскоквае з рэдактарскага кабінета чырвоны, як вараны рак, на ілбе выступіў пот.**

**— Чаго так усхваляваўся, Мікола? — пытаецца Кукарэка.**

**— Убачылі, браце, што чалавек крыху разумнейшы за іх, дык не даюць жыцця, — махае рукой Засім.**

**Не знайшоўшы паразумення, праз некаторы час паэт вымушаны быў пакінуць рэдакцыю "Зари", уладкаваўся на працу ў рэдакцыю брэсцкай раённай газеты "Заря над Бугом"...**

**У 1957 годзе Мікола Засім памёр, пражыўшы ўсяго 49 гадоў. Як запавет гучаць яго радкі з апошняга верша "У час роздуму": "Пісаць трэба праўду, з няпраўдай змагацца". Верным гэтаму правілу ён быў да канца свайго жыцця.**

**Аляксей КАЎКА**

# «БЯРОЗКА ЛЯ АКНА...»

Недзе гадоў трынаццаць назад, будучы юнкорам любімага дзіцячага часопіса, прачытаў у ім наступныя радкі:

*"Бярозка"! Ты заўжды ў паходзе.*
*Заўжды бадзёры твой настрой.*
*І хай яшчэ паўвека пройдзе —*
*Ты застанешся маладой...*

Як засведчыў час, аўтар гэтага прысвячэння — тады яшчэ вучань Пасецкай сярэдняй школы Старадарожскага раёна Алесь Усеня — меў рацыю. Старэйшае беларускае выданне для дзяцей і падлеткаў сёння па-ранейшаму застаецца маладым і бадзёрым, нягледзячы на свой паважаны ўзрост. А ў наступным годзе ў часопіса 80-гадовы юбілей.

Менавіта гэтай важнай падзеі прысвечана кніга "Бярозка", якая толькі што пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Адкрываецца выданне ўступным словам галоўнага рэдактара часопіса Уладзіміра Ягоўдзіка "Дзівосны парастак". "Асабліва радуе, — гаворыць пісьменнік, — што колішні маладзенькі парастак з часам ператварыўся з надзейнага сябра многіх і многіх школьнікаў, якога ведаюць па ўсёй Беларусі. Найлепш пра гэта сведчаць допісы, вершы, малюнкі юных аўтараў, надрукаваныя ў кожным нумары часопіса. Шмат хто з нашых аўтараў розных дзесяцігоддзяў стаў прафесійным пісьменнікам".

Укладальнік зборніка, намеснік галоўнага рэдактара часопіса Уладзімір Мароз зрабіў вялікую і патрэбную справу: сабраў пад адной вокладкай лепшыя публікацыі апошніх васьмі гадоў — вершы і апавяданні, нарысы і эсэ аб роднай прыродзе, славутых людзях і мясцінах беларускай зямлі, аб гісторыі нашай краіны.

Асноўную думку прысвячэнняў "Бярозцы" А. Вялюгіна, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна можна выказаць вялюгінскімі радкамі:

*Дзе белакорая, адна,*
*Як ветразь ранніх зім і лет,*
*Стаіць бярозка ля акна,*
*З якога мне адкрыўся свет.*

На паэтычнай галінцы "Бярозкі" трапечацца вершаваныя лісткі А. Бадака, Р. Барадуліна, Д. Бічэль, Г. Бураўкіна, В. Гардзея, Ю. Голуба, А. Дэбіша, В. Зуёнка, Г. Каржанеўскай, А. Каско, М. Маляўкі, У. Марука, У. Мароза, Т. Мушынскай, С. Панізніка, А. Пісьмянкова, Ю. Свіркі, М. Чарняўскага, В. Шніпа.

Проза ў зборніку прадстаўлена апавяданнямі Л. Дрожжы, В. Кастручына, К. Кірвеля, А. Крэйдзіча, У. Машкова, П. Місько, В. Мудрова, А. Наварыча, Н. Пракопчык, Л. Раманавай, Л. Рублеўскай, С. Тарасава, В. Ткачова, А. Федарэнкі.

Вялікую цікавасць у юных (ды і дарослых таксама!) чытачоў выклічуць раздзелы "Ведай нашых", "Славутыя мясціны Беларусі", "Стагоддзі Беларусі", якія з вялікай любоўю і пашанай распавядаюць аб нашых знакамітых суайчынніках і старажытных землях. Аб гэтым пераканаўча сведчаць ужо самі назвы твораў: "Вітаўт Вялікі", "Белая сталіца дзяржавы", "Бацька гарадоў беларускіх", "На мяжы старадаўняй Літвы", "У Гародню да Антонія Тызенгаўза", "Старажытны Мсціслаў — сэрца беларускай Смаленшчыны", "Ланцужок айчыннай гісторыі" і іншыя.

А сваёй маляўнічай лістотай "Бярозка" абавязана мастакам Ю. Алісевічу, І. Гардзіёнку, А. Глекаву, П. Татарнікаву, Г. Хінка-Янушкевіч, А. Лось, Ю. Струкаву, Г. Філіпёнак, Л. Шчаснай, Т. Сіплевіч, В. Гардзіёнак-Кірэевай, А. Вашчанка.

**Уладзімір МАЗГО**



**Мікола Мятліцкі**



## НЯСПРАЎДЖАНАЕ ВЯСЕЛЛЕ

*Два сыны у Рагвалода*
*І дачка, як зорка-яска.*
*Невядома – бачыць шкода –*
*Ім матуліная ласка.*

*Падрастаюць сіраціны,*
*Над ракой гукаюць рэха.*
*Бацька, слаўны князь, адзіны*
*Іх апора, іх уцеха.*

*Над зямлёй Ярыла едзе*
*Ў залачонай калясніцы.*
*Шэпчуць кветкі штось Рагнедзе,*
*Звоняць бруйныя крыніцы.*

*Стольны Полацак з прыцмокам*
*Пазірае: кветка-ружа!*
*Князь заезджы кіне вокам –*
*Прагне ўзяць яе ў замужжа.*

*У харомах Рагвалода*
*Б'юць сваты зачаста ўклоны,*
*Ды чакае ўсіх нязгода.*
*Едуць, сыплючы праклёны.*

*Шмат князёў у свеце тужыць,*
*Што не сталі жаніхамі, –*
*Успамін аб кветцы-ружы*
*Сэрца коле ім шыпамі.*

*І радзей усё ў харомы,*
*У князёўніны святліцы,*
*Залятае гул знаёмы,*
*Торг вядзецца аб куніцы.*

*Рагвалод таму не рады,*
*Хоча быць у сане дзеда.*
*Ды не слухае парады*
*Ганарлівая Рагнеда.*

*Бацька-князь хмурэе ўпотай*
*Ды клапоціцца аб раці.*
*Бачыць з горкаю пяшчотай:*
*Падабрала крошкі маці!*

*Тыя ж вочы, тыя ж вусны,*
*І каса – чарней ад смолі.*
*Час юнацкі, юр спакусны*
*Не забыць яму ніколі.*

*"Мо Пярун за што карае? –*
*Шле выяву наўздагонкі!*
*Прыгажуня! Паўтарае*
*Воблік страчанае жонкі."*

*Парасчынены вароты,*
*Госці голасна ўязджаюць.*
*Вой ступіў з двара са слоты:*
*– Князь, сваты!*
*– З якога краю?*

*– З недалёку! – стражнік кажа.*
*(За акном – грамчэй усклікі) –*
*Іх паслаў, прасветлы княжа,*
*З мірам Ноўгарад Вялікі.*

*Князь між іх – жаніх названы.*
*Не ўтрывай – бяруць спадзеўкі!*
*Рагвалод расчараваны:*
*Князь! – і сам прыбег да дзеўкі?!*

*– Прывітаць людзей з дарогі! –*
*Рагвалод гукае чэлядзь.*
*Кінуў скоса позірк строгі*
*На прышэльцаў: "Мякка сцелюць!"*

*Вось застольная бяседа*
*Хмельна ўзносіць чары мёду.*
*Счырванелася Рагнеда.*
*Люб жаніх і Рагвалоду.*

*"Што й казаць... Як віцязь, статны.*
*Бач, па ім дачка ўжо сохне.*
*У такога меч булатны*
*У руцэ ліхой не дрогне!"*

*І сватамі згода ўчута:*
*Балю быць – жаніх па сэрцу!*
*Хваляць хлопца, баламуты,*
*Словы роняць – сыплюць перцу.*

*– Дык скажыце ўсё ж, ці згода? –*
*Сверб сватоў падпітых точыць.*
*Чараўніца Рагвалода*
*Падняла на госця вочы.*

*І яны агнём-сінечай*
*Ўсё без слоў сказалі самі.*
*У палатах позні вечар*
*Калыхнуўся галасамі.*

*Шчэ нячута і нязнана*
*Ноччу той было ў застоллі:*
*Ім, дваім, наканавана*
*Паспытаць няўцешнай долі.*

*Што напіша лёс іначай,*
*З лютай жорсткасцю крывою*
*Быль суровую гарачай*
*Роду знатнага крывёю.*

*Быць разбітаму каханню,*
*Што, як вогнік, узвілося.*
*Стаць апошнім іх спатканню,*
*Жыць балесным адгалоссем.*

*Шчасця мройнага карціны*
*Раз астатні сэрца бачыць.*
*Іншы змусіць стаць жанчынай*
*На вачах братоў і бацькі.*

*Ёй адпрэчаны рабыніч*
*Прыйдзе сілай авалодаць.*
*Секане пад корань – згіне*
*Дрэва роду Рагвалода.*

*А пакуль над Палатою*
*Ходзяць хмельна з мёдам чары.*
*Клятвай вернасці святою*
*Закаханых цешаць мары.*

## МАЦЕЙКА

*Толькі сыдзе ноч-зладзейка,*
*Адкугікаўшы савою,*
*Задаволены Мацейка*
*Павяртаецца з разбою.*

*На гары, акуты борам,*
*Чынна выкладзены з дубу,*
*Непрыступны, дрэмле хорам,*
*Скуль забойца сее згубу.*

*Ночы ўсе на бліжнім шляху*
*Чынш збірае гіцаль гэты:*
*Коні пудзяцца са страху,*
*Аж куляюцца карэты.*

*Наляціць, бы прывід нейкі,*
*Гікне злосліва-сярдзіта.*
*Скрыня ў схованцы Мацейкі*
*Жарам золата набіта.*

*Плач нявольніц у пакоях*
*Узмывае звар'яцела.*
*Над пустэльнаю ракою*
*Сыч каханнем цешыць цела.*

*Як замлее ранак белы –*
*У паўзмрочлівым сутонні*
*Маладых нявольніц целы*
*Закалышуцца на тоні.*

*Пад наглядам дробных зорак*
*Збыцца гіцаля капрызу:*
*– Пракапаць абвод пад гору,*
*Каб рака цякла паблізу!*

*Ўжо Мацейка з вокнаў чуе*
*Плёскат хваль, душы салодкі.*
*Ступіць ноч – ляціць, рабуе*
*Стругі, плытнікаў і лодкі.*

*Гнеўны грукат пяруновы*
*Разлягаецца над борам.*
*Вось рабы нявольніц новых*
*Прывялі ў Мацейкаў хорам.*

*Нечакана сэрца тае*
*У драпежніка-пачвары.*
*Ды глядзіць пагардна тая,*
*Што ўзяла ў кахання чары.*

*Чуе згубца – як капейка*
*Сэрца стукае-бразгоча.*
*Сохне-мучыцца Мацейка.*
*Зглухлі злодзеевы ночы.*

*Загадаў паднесці скрыні,*
*Дзе дароў нязнаных поўна –*
*Зірк наўважны толькі кіне,*
*Галавой хітне адмоўна.*

*– Даражэй за скарбы свету*
*Сэрцу страчаная воля!*
*Як пачуў Мацейка гэта, –*
*Захлынуўся немым болем.*

*Нож хапіў – і хіжа, люта*
*Сам нанёс удар смяротны.*
*Пала мёртваю Данута.*
*Выцер гіцаль лоб свой потны.*

*Пазіраў, што ашалелы,*
*У вачніцы смерці скорай:*
*Упіваліся, бы стрэлы,*
*Праціналі непакорай.*

*І Мацейка, статны ростам,*
*Знік-асеў: – Як звер, вякую!*
*Ён спазнаў знянацку роспач*
*Невыносную, цяжкую.*

*З небывалай весялосцю*
*Ладзіў пышныя хаўтуры.*
*Ноч гулялі шумна госці,*
*Толькі ён сядзеў пахмуры.*

*Агняпёра ўспыхнуў ранак,*
*Росы бліснулі на руце, –*
*Ў склеп падаўся да каханай,*
*Кінуў слугам: – Замуруйце!*

*Адышліся ў часаў далі*
*Дзеі грознага разбою.*
*Смутна стогнуць Нарвы хвалі*
*Пад Мацейкавай гарою.*

## СКАРБ БЯЗДОННЫ

*Хіб уздыбіў тур рагаты,*
*Сатрасае вусціш ранку.*
*Лук загоншчыка напяты,*
*Стрэлы – лёткія маланкі.*

*Асядае звер ля дуба,*
*Гону коціцца віхура.*
*Са стралой дапяла згуба,*
*Віхрам князь ляціць на тура.*

*Той, шалеючы ад раны,*
*Устае з астатняй сілы,*

*Рогі дыбіць нечакана*
*Гойстрапікія, як вілы.*

*Са ўсяго галопу-гону*
*(Неўспадзеў прыгода тая)*
*Конь няўтрымны, як шалёны,*
*На пярэйму налятае.*

*Князь ляжыць, канём падмяты,*
*Смерць цікуе вокам тура.*
*Нож, загоншчыкам узняты,*
*Мільгануў над пысай бурай.*

*Трапна б'е – у горла меціць*
*Так упраўна і рухава.*
*Княжы твар, што ясны месяц –*
*Смерць мінула Яраслава.*

*– Што ж, жыццё каштуе многа!*
*Сыпце золата! – Князь кажа.*
*Ды загоншчык анічога*
*Браць не мкнецца з ласкі княжай.*

*Вочы бліскаюць хітругі.*
*Сук бярэ, стаіць у сонцы,*
*З недаўменнем бачаць слугі:*
*Пратыкае ім чырвонцы.*

*– Скарб твой, княжа,*
*ўсё ж глыбокі,*
*Толькі дно і ён вось мае.*
*І загоншчык хітравокі*
*Так размову зачынае:*

*– Гэта княжая патрэба –*
*Чуць дукатаў перазвоны.*
*Я ж хачу займець пад небам*
*Небывалы скарб – бяздонны.*

*Дай мне дар той, князь*
*вяльможны,*
*І пачуешся ў расплаце...*
*– Дно дастаць, хітруга, можна,*
*Звёзшы ўсё маё багацце!*

*І загоншчык пырснуў смехам:*
*– Скарб той, князь, навідавоку!*
*Ён зямлю лавецкім мечам*
*Працінае у пайкроку:*

*– Вось той скарб –*
*людское шчасце,*
*Потам мыты, сонцам грэты.*
*Што чырвонцы? – могуць скрасці.*
*Вечны толькі скарб вось гэты!*

*І няма лацвей ратаю*
*Баразной ступаць сваёю:*
*Скібы чорныя гартае,*
*Дна не чуе пад сахою!*

*Як ускінецца жытамі,*
*Колас выганіць зялёны, –*
*Думкі ўцешна кажуць самі:*
*Вось са скарбаў скарб – бяздонны!*

*– Што ж... – прамовіў князь*
*нястрога, –*
*Вёў гаворку ты сумленна.*
*Скарбу дам табе такога*
*Па дзесятае калена!*

*Знатнай граматаю дарчай*
*Тут, у стане паляўнічым,*
*Князь з ухваткай гаспадарчай*
*Дорыць служкы Велямічы.*

*Далеч сонечна світае,*
*Шчодра сеючы пламенне.*
*І брыдзе быліна тая*
*З пакалення ў пакаленне.*

*Дзень на сходзе вока мружыць,*
*Ахінае вечар сонны.*
*Хто зямлю і сёння плужыць –*
*Мае вечны скарб бяздонны.*

**ПРОЗА**

**Новы раман Віктара Праўдзіна пачынае цалкам друкавацца ў часопісе "Полымя" ў нумарах 11—12 2003 г. У рамане паказаны падзеі сённяшняга дня. Чытач сутыкнецца з каханнем і здрадай, з найвышэйшымі праявамі чалавечай годнасці, адказнасцю за будучыню і звычайнай чалавечай зайздрасцю, сквапнасцю, жаданнем жыць за кошт іншых (і не толькі матэрыяльна, але запазычваюцца на пэўны час і маральныя вартасці) і, зразумела, гэткія людзі не маюць будучыні, але ж...**

# НЕЛЮБІМЫЯ ГІНУЦЬ

## Урывак з рамана

**Віктар ПРАЎДЗІН**



Іван Серада адчуваў сябе няўтульна, нешта як шкодзіла, быццам муляла, душа поўнілася неўсвядомленым раздражненнем, а ў пэўныя моманты нават гневам. Нейкі час ён не мог зразумець прычыны свайго неспакою, пакуль не пачуў галасы. Нехта гаварыў прыцішана і глуха, быццам бухаў у бочку, напалову запоўненую вадой, зрэшты, гэты нехта толькі падтакваў, а вось другі голас, ціхі з прысвістамі, падобны на шыпенне змяі, здавалася, п'яўкай прысмактаўся да галавы, і кожнае слова абцугамі сціскала скроні з неймавернай сілай. Вось што яго раздражняла і выклікала абурэнне. У той самы момант, калі, як кажуць, цярпенне лопнула і Іван сабраўся ўжо крыкнуць, каб сціхлі і далі магчымасць спакойна паспаць, бо раніцай ён са сваім узводам павінен заступаць у каравул, нешта ў галаве як выбухнула: «Дзе я? Чаму не разумею сэнсу слоў? Дый галасы гэтыя чую ўпершыню... А раптам нас акружылі духі?» Адразу неспакой саступіў месца асцярожнай развадлівасці, левая рука слізганула да аўтамата, які заўсёды «спаў» побач, але звычную прахалоду металу не намацаў, рука нечакана праваліпася ў пустату. «Так і ёсць, абяззброілі, праспалі духаў... Толькі жывым не дамся, не на таго натрапілі... зараз будзе вам сюрпрыз...». Разумеючы, што за ім могуць назіраць, Іван асцярожна пасунуў руку да пояса, да патаемнай кішэні, у якой хаваў гранату, і нават ноччу не разлучаўся з ёй. Рука наткнулася на голае цела, імгненна стала горача, затахкала ў скроні: «Каб не ўцёк, распранулі...» Чакаючы ўбачыць здзеклівыя варожыя твары, няспешна расплюшчыў вочы, але замест звыклай зялёнай матэрыі палаткі над галавой убачыў высокую столь, па якой блукалі прывідныя начныя цені. У гэты момант нехта запаліў святло, і праз хвіліну над ім схілілася жаночая галоўка ў белым капялюшыку. Вялікія шэрыя вочы з трывогай абмацалі Іванаў твар і нечакана пацяплелі, заіскрыліся радасцю:

— Ачуняў, саколік, — зляцела з пульхных жаночых вуснаў.

Іван улавіў пах тытуню, таннай парфумы і... гарэлкі. Адразу засмактала пад лыжачкай, да няўсцерпку захацелася курыць.

— Дзе я? — прашаптаў Іван.

— Там, дзе і павінен быць, у шпіталі, — папраўляючы хвалістую пасмачку русява-попельных валасоў, якая выбілася з-пад капялюшыка, усміхнулася жанчына. — Зараз зраблю табе ўкольчык, і будзеш спаць, саколік, аж да самай раніцы...

Іван таксама ўсміхнуўся, але неяк вымучана і нясмела. Усведамленне таго, што ён не ў палоне, а ў сваіх, нечакана расчуліла, на душы зрабілася лёгка і спакойна, настолькі спакойна, што добрая і адначасова пакутлівая цеплыня быццам пераціснула горла, і прыемным салёнаватым камяком на міг заняло дыханне.

— Мне б п-пакурыць, — сілячыся пракаўтнуць здрадніцкую слабасць і ад таго заікаючыся, папрасіў Іван.

— Я, сынок, зраблю табе такі ўкольчык, які лепей і за цыгарку, і за чарачку...

— Пятроўна, шырні і мяне, — бухнуў бас.

— Табе гэты ўкольчык доктар адмяніў, вельмі хутка прывыкаць стаў. Ты, часам, траўку раней не смаліў? — штукуючы каля Іванавага пляча, незласліва, прыцішыўшы голас, сказала жанчына.

— Траўку, траўку, — перадражніў жанчыну бас. — У чалавека, ёлкі-палкі, гора, баліць і цела і душа, а вашаму доктару дзярма гэтага шкода... Ну, хоць дымедрольчыку з анальгінам можна?

— Дымедрольчыку можна, — пагадзілася медычка.

Іван скасіў вочы і, убачыўшы, як медычка ўставіла шпрыц у мутнавата-белую трубку, што тырчала, як здалося, ледзь не з самай шыі, занерваваўся, рукі міжвольна пацягнуліся да гэтай трубкі.

— Супакойся, саколік, — медычка пяшчотна пагладзіла яго па плячы, перахапіла руку, — табе яшчэ доўга тут ляжаць... І катэтар не чапай, лякарствы лепш праз яго ўводзіць, чым кожны раз вены калоць.

«Што са мной здарылася, чаму я ў шпіталі?..»

Гэтае пытанне нечакана і імкліва ўварвалася ў свядомасць, яно ўварвалася разам з гарачай і нейкай бязвольна-прыемнай цеплынёй, што імгненна разлілася, запаланіла цела. Іван хацеў запытацца ў медычкі і не змог, перад вачамі ўсё плыло і хісталася, здалося, ён бачыць, як рухаецца пад столлю дрыготкае паветра, а медсястра раптам, як дырыжор, пачала ўзмахваць рукамі, і адразу аднекуль здалёк, ад акна, у якое стукаліся месячык і начное зорнае неба, палілася мелодыя вальса, апошняга вальса, які ён танчыў са сваёй каханкай на праводзінах у войска. Іван з асалодай заплюшчыў пацяжэлыя вейкі, у гэтыя хвіліны ён не жадаў нікога бачыць і нічога чуць, акрамя музыкі.

Музыка знікла гэтак жа нечакана, як прыйшла. І зноў была ноч, і зноў Іван чуў прыглушаны бас і гугнявы з прысвістам шэпт. Праўда, цяпер галасы не раздражнялі, наадварот, было прыемна ўсведамляць, што ты не адзін, што нехта ёсць побач, і, галоўнае, знікла адчуванне штохвіліннай небяспекі, наўкол свае, і можна не хвалявацца за жыццё, сваё і падначаленых.

... Духі... чэхі... вяртушка... засада... фугас...

Гэтыя словы з нейкім асаблівым націскам, а мо павагай, гугнявіў невядомы чалавек, а другі, згаджаючыся, іх паўтараў, басіў быццам наўмысна для Івана.

Цяпер Іван не прыслухоўваўся і не сіліўся зразумець, пра што гаманілі ў палаце, але гэтыя словы міжвольна ўразаліся ў свядомасць, дастукваліся да яго памяці, варушылі яе, пакуль канчаткова не вярнулі з небыцця. Здалося, быццам хтосьці нябачны — р-раз — і сарваў фіранку з вачэй... І ўсё, што шкодзіла, імгненна знікла... І ён успомніў падзеі апошняга боя да апошніх дробязей...

Кожную вуліцу Грознага, кожны лапік зямлі федэральныя войскі бралі з боем. Узвод Івана Серады толькі што заняў дом, а дакладней, тое, што ад яго засталося, і гэта была перамога. Яны першымі зачапіліся за стратэгічна выгадны плацдарм каля плошчы Мінуткі і хутка занялі кругавую абарону. Ведалі, што праз гадзіну-другую іх паспрабуюць адсюль выбіць, не кідаць жа стрэмку каля «сэрца». Так яно і здарылася. Недзе праз паўгадзіны варожая гаўбіца, расчышчаючы дарогу пяхоце, распачала метадычна абстрэльваць страчаны плацдарм. Іван перадаў па радыёстанцыі і свае каардынаты, і варожыя, узгадніў сумесныя дзеянні з камандзірам батальёна, але, як часцяком бывае на вайне, нешта не спрацавала, і замест варожых пазіцый артылерыя пачала абстрэльваць яго, а тут яшчэ і самалёты наляцелі...

Рыжага хлопчыка Іван убачыў, калі той пераходзіў вуліцу. Пачаў крычаць, але хіба можна нешта пачуць, калі наўкол вайна. Здзівіла, што малы не баіцца ні выбухаў, ні стрэлаў, здавалася, для яго зусім не існавала гэтага жахлівага пекла. Ён ішоў па вуліцы з чайнікам у руцэ і прастадушна ўсміхаўся. Раптам да малечы падбегла цяжарная жанчына, і ў гэты самы момант снарад трапіў у бліжэйшы ад іх дом. Спярша абрушылася страха, знікла імгненна і цалкам, быццам яе нехта праглынуў, усмактаў у сярэдзіну будыніны, потым захісталіся сцены. Жанчына, пужліва азірнуўшыся на слуп з дыму і агню, які шуганаў у неба, ухапіла малога за руку і пацягнула прэч ад гэтага пагібельнага месца. У нейкі момант прапаршчык Серада таксама пераstаў чуць вайну, уся ўвага была скіравана на сцяну, якая, пагрозліва хістануўшыся раз-другі, быццам выбіраючы месца, куды лепш паваліцца, пачала павольна хіліцца на ўцекачоў. Жанчына з хлопчыкам чамусьці беглі ўздоўж вуліцы, Іван бачыў, што яны не паспеюць мінуць разбомблены дом. Сцяна падала на іх, і ратунку, здавалася, не было. Невядомая сіла імгненна падхапіла Івана на ногі і кінула насустрач жанчыне з хлопчыкам. І адразу заціўкалі над галавой кулі, фантанчыкамі ўздыбіўся асфальт каля ног, але гэтага Серада не бачыў і не чуў. Ён быў добрай мішэнню, стралялі з варожых пазіцый, і было відавочна, што не толькі ён назіраў за цяжарнай жанчынай і рыжым хлопчыкам з чайнікам у руцэ.

Серада як віхор наляцеў на ўцекачоў, аберуч абхапіў абодвух і сігануў да супрацьлеглага боку вуліцы, да адзінага месца, куды каменныя глыбы не даляталі. Ён паспеў налічыць усяго сем крокаў, як нешта злавесна-вострае апякло спіну, і адразу быццам шквальны вецер адарваў ад зямлі і, балюча штурхнуўшы ў плечы, кінуў на яе зноў. Падаючы, Серада бачыў вялікія аксамітна-чорныя вочы спалоханай жанчыны, ён чуў яе перарывістае дыханне, і раптам гэта ўсцешыла, у нейкі момант неспакойна-зацятая прастора, што акружала яго, пашырылася да непазнавальнасці, і на руках ён ужо трымаў не перапалоханых людзей, якія шукалі ратунку ад смерці, а сваю каханку... «Ты выбрала мяне...» — радасна прашаптаў Іван і, перш чым ён страціў прытомнасць, мяккае цяпло гаючым бальзамам прапілося ў спаралізаванае цела, напоўніла душу ціхамірнасцю і спакоем.

# «КРАМА» ПЕРААСЭНСОЎВАЕ «DEPECHE MODE»

***Вядомая прымаўка: "Не спяшайся, а то паспееш!" бывае прыносіць свае нечаканыя вынікі. Як ў выпадку з гуртом "Крама". Справа ў тым што, музыкаў запрасілі да ўдзелу ў беларускім трыб'юце сусветнавядомага гурта "Depeche Mode". Але па нейкіх прычынах крамаўцы спазніліся з прадстаўленнем запісаных фанаграм і трыб'ют выйшаў у свет без іх трэкаў.***

Расчараванне змянілася радасцю, калі музыкі даведаліся, што пасля праслухоўвання іх кавера песні "Enjoy The Silence" ("Асалода ад цішыні"), яе аўтару Марціну Л. Гору гэтая беларуская версія вельмі спадабалася, а выдаўцы трыб'юта — фірма MSH records & publishing вырашылі выдаць твор у выкананні "Крамы" асобным дыскам.

Перш чым распавядаць пра крамаўскую версію, трэба адзначыць што "Enjoy The Silence"—адзін з самых знакамітых хітоў гурта "Depeche Mode", быў запісаны ў 1990 годзе на альбоме "Violator". Сінгл з гэтай вельмі меладычнай песняй, аранжыраванай у модным тады футурыстычна-электронным саундзе, быў выдадзены мільёнымі тыражамі і атрымаў прэстыжную музычную ўзнагароду "Brit".

Ад электронных аранжыровак першапачатковага варыянта крамаўцы аставілі партыі электрапіяніна, гук якога пераплятаецца з пераліваміі электрагітары С. Трухановіча. Блюзавы голас лідэра І. Варашкевіча дакладна, без змен перадае складаныя меладычныя хады "Enjoy The Silence", падкрэсліваючы ягоныя беражлівыя адносіны да арыгіналу. Відаць, такія падыходы і былі высока ацэнены аўтарам твора.

Другая частка дыска-працяга трыб'юта "Belarusian Tribute To Depeche Mode" PERSONAL DEPECHE" адлюстроўвае культуру беларускага ды-джэінга. Дыджэй Maks Retort прапанаваў на дыск "Floated mix" — значыць, "плаваючы" дыджэйскі варыянт версіі "Крамы". Та-




кое гучанне дасягаецца з дапамогай электронных эфектаў, якія робяць гук "плаваючым". Ды-джэй Yarik прадстаўляе свой варыянт песні "Enjoy The Silence" ў экзатычнай стылістыцы, якую ён назваў "Rock-tech-house". Гэты твор будзе дарэчы на дыскатэцы. Іншы рэмікс названы "Глыбакаводным", бо ён падкрэслівае ўнутраную філасофскую заглыбленасць аўтараў. На дыску запісаны яшчэ адзін трэк у фантастычным "Future pop" стылі. Яе аўтар Maks Retort паспрабаваў уявіць тое, як будзе гучаць твор "Depeche Mode" гадоў так праз 50. Атрымалася нічога сабе: арыгінальна! Як і ўвесь дыск, запісаны на аснове песні "Enjoy The Silence", і пераасэнсаванай гуртом "Крама".

Анатоль МЯЛЬГУЙ



КАНЦЭРТЫ

# ПАВЕТРА ТВОРЧАСЦІ

Мастацтва — унікальная сфера дзейнасці. Тут сама неардынарная асоба творцы вызначае ступень эстэтычнага ўздзеяння на гледача, слухача. Асаблівая атмасфера музіцыравання сапраўдных артыстаў — піяністкі, прафесара Беларускай акадэміі музыкі Зоі Качарскай і скрыпача, мастацтвазнаўцы, прафесара кафедры мастацтваў Вышэйшай школы бізнесу Скандынавіі, выкладчыка Драматычнага інстытута імя Бергмана (Стакгольм) Міхаіла Казініка — і адчувалася ў сталічнай Зале камернай музыкі тым восеньскім вечарам.

Жанр імпрэзы можна было б вызначыць як лекцыя-канцэрт, бо тут былі і роздум пра музыку (М. Казінік), і сама музыка — Моцарта, Паганіні, Шуберта, Шумана, Брамса, Шнітке, Эшпая (М. Казінік — З. Качарская). Але ж такое вызначэнне выклікае адчуванне акадэмічна-закансерваванага-звычайнага, што меней за ўсё адпавядае ауры даверлівасці, душэўнай цеплыні, тонкай імправізаванасці любові да мастацтва і музыкі, якія луналі на сцэне і ў зале.

Публіка 70—80-х гадоў добра памятае філарманічныя канцэрты з удзелам розных лектараў-музыказнаўцаў. Яны па большасці сваёй выклікалі незадаволенасць: слова звычайна саступала гукам музыкі. Лектар, як правіла, прыпадабняўся Сальеры, які імкнуўся "музыку разъять как труп" ці "проверить алгеброй гармонию" (А. Пушкін).

Ды М. Казінік не выглядаў лектарам-ментарам, які пагардліва павучае публіку, цісночы на яе веданнем дат і фактаў, абыякавых для фантазіі. На сцэну разам са з'яўленнем майстра слова нібыта ўварвалася свежае паветра творчасці, віхор неардынарных, спрэчных думак пра музыку, якія хвалявалі публіку і абуджалі ўяўленне. Цудоўны лектар трымаў у руках скрыпку і яна, нібыта прыслухоўваючыся, чакала свайго часу.

Маэстра аб'яднаў праграму канцэрта ідэяй складанасці творчага шляху вялікіх музыкантаў мінулага і сучаснасці. У яго метафарычна яркім уяўленні таленавіты мастак — гэта чалавек, асабліва адзначаны Богам, ягоным пацалункам. Праўда, вастрыня адчуванняў мастака ўзмацняецца ўласным горкім лёсам, цяжкасцямі жыцця, якія перадвызначаюць таксама з неба і абумоўліваюць абсалютнае "агортванне" творчасцю.

Міхаіл Казінік не толькі і не столькі лектар і музыкант-выканаўца, колькі выдатны артыст, з асаблівай, як цяпер гавораць, харызмай. Артыст, здольны да яднання з усялякай слухацкай аўдыторыяй. Усё ягонае аблічча — чорныя пякучыя вочы, хуткае маўленне — спрыяла эстэтычнаму ўздзеянню арганічна выбудаванай драматургіі музіцыравання. У дынаміцы канцэрта не было зацягнутасцяў, калі міжволі падумаеш (як бывае на звычайных лекцыях-канцэртах): "Хопіць гаварыць, давай музыку..." Усе кампазітары, згаданыя ў канцэрце-спектаклі, паўставалі перад гледачамі жывымі людзьмі: яны пакутавалі, кахалі, былі маладымі ці не вельмі... Усіх яднала моцнае захапленне творчасцю, музыкай і горкія жыццёвыя калізіі. Бах рабіўся зразумелы не толькі як аўтар знакамітай "Храматычнай фантазіі", але і як бацька 12 дзяцей, якіх трэба было карміць, апранаць і вучыць пры мізэрных заробках... Моцарт аказваўся не толькі творцам цудоўных фартэпіянных адажыо ў санатных цыклах, але і маленькім хлопчыкам, які палохаецца смерці. Шнітке — і аўтарам "Сюіты ў старадаўнім стылі", і бедным масквічом, у якога не было грошай нават на метро.

Здаецца, гэты музычны вечар адказаў на пытанне, якое апошнім часам лунае ў аўдыторыях, блізкіх да мастацтва: чаму класічная філарманічная музыка на Беларусі церпіць фіяска і страчвае масавага слухача? Як усялякае сапраўднае мастацтва, музыка мае патрэбу ў артыстах-асобах, а не проста добра навучаных (ці, як у нас падчас гавораць, — натрэніраваных) выканаўцах, не здатных узняцца да ўзроўню сапраўднага музыканта.

Зоя Качарская і Міхаіл Казінік пераадолелі бар'ер канцэртнай будзённычыны і акадэмічнай сухасці, якія не стасуюцца з сапраўдным мастацтвам. Іх таленты адзначаныя з небам, і дай Божа ім шлях меней цяжкі, чым жыццёвыя дарогі тых вялікіх кампазітараў, чыя музыка гучала цудоўным восеньскім вечарам.

Ія ДЗЕРГАЧОВА



МУЗЫКА

***Опера Д. Вердзі "Набука", па прызнанні самога кампазітара, нарадзілася пад шчаслівай зоркай. Для Таццяны Кнутовіч шчаслівай стала ў аднайменным спектаклі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі партыя Абігаіль. Уладальніца моцнага, насычанага голасу палётнага гучання, яна спявала шчыра, ярка, каларытна, прыгожа.***

# МАРЫ ЗДЗЯЙСНЯЮЦЦА

Адчувалася, што артыстка добра валодае ўсімі фарбамі сваёй багатай вакальнай прыроды, якія дапамагалі ёй стварыць музычна і драматычна непаўторны вобраз гераіні. У яе Абігаіль пераплятаюцца каханне і нянавісць, сквапнасць, імкненне да ўлады... Колішні мастацкі кіраўнік тэатра С. Картэс казаў Таццяне Кнутовіч: "Вывучыш партыю Абігаіль — будзеш спяваць у тэатры". І яна вельмі хутка — за два с паловай месяца — справілася з гэтай цікавай складанай партыяй, можна сказаць, днявала-начавала з клавірам. У гэтай партыі артыстка паспяхова выступала ў Італіі, Германіі.

Мне давялося бачыць Т. Кнутовіч і ў оперы А. Барадзіна "Князь Ігар" у партыі Яраслаўны: яна ўвасобіла вобраз любячай, самааддананай жонкі, і голас спявачкі чараваў мяккімі, пяшчотнымі ноткамі.

Лёс Таццяны склаўся няпроста. У чатырнаццаць яна страціла бацькоў. Але не разгубілася. Паступова, сур'ёзна і карпатліва, асвойвала складаную прафесію спявачкі. Напэўна, ад маці ёй перадаўся прыгожы голас. Удзельнічала ў школьнай мастацкай самадзейнасці. Паступіла вучыцца на вакальнае аддзяленне Маладзечанскага музычнага вучылішча па класе Р. Зяблікавай. Стала лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу спевакоў сярод навучэнцаў музычных вучылішчаў. І гэта перамога дала ёй пуцёўку ў далейшы шлях. Паступіла ў Маскоўскую кансерваторыю імя П. Чайкоўскага ў клас народнай артысткі СССР Б. Рудэнкі, якая шмат чаму навучыла Таццяну і ў прафесійным, і ў жыццёвым плане. "У спявачкі дома павінен быць тыл — муж, дзеці, каб прыйшла дахаты і трошкі расслабілася", — гучала разумная парада. Так і атрымалася: у Таццяны цудоўны муж, які заўсёды разумее яе, дапамагае, і дзве любыя дачушкі.

Адразу пасля заканчэння кансерваторыі яна прыехала ў Мінск, але ў беларускім оперным яе нават праслухоўваць не сталі, адмовілі: "Нам сваіх дзяваць няма куды!". І яна пачала выкладаць вакал у Маладзечанскім музычным вучылішчы. Але спяваць не кінула. Выступала з маладзечанскімі аркестрамі: народных інструментаў і сімфанічным, якімі кіруе Р. Сарока.

У 1996-м спявачка ўдала выступіла на Міжнародным вакальным конкурсе ў галандскім горадзе Хертагенбош — паспяхова прайшла два туры і мела майстаркласы ў вядомай амерыканскай спявачкі Эвелін Лееар. А яшчэ яна стала лаўрэатам Міжнароднага конкурсу ў Паўднёвай Карэі.

І вось, нарэшце, здзейснілася мара, якой артыстка Т. Кнутовіч была апантаная больш за дзесяць гадоў: яна стала салісткай Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі.

"Таццяна мяне вельмі здзівіла, — гаворыць яе канцэртмайстар Ж. Габа. — Больш як дзесяць гадоў у чаканні тэатра — але яна здолела дабіцца выдатнага выканання і не шкадуе сябе, кожны дзень ездзіць электрычкай у Мінск, шмат працуе, мэтанакіраваная і пры гэтым — без духу саперніцтва".

Так, Таццяна не ўдзельнічае ні ў якіх інтрыгах, не звяртае ўвагі на зайздроснікаў. Проста вельмі любіць спяваць. У яе столькі планаў! Марыць выканаць партыю Турандот у аднайменнай оперы Д. Пучыні, якую ўжо вывучыла, а таксама Леаноры, Амеліі ў операх Д. Вердзі "Трубадур", "Баль-маскарад", Тоскі ў аднайменнай оперы Д. Пучыні, Лізы ў "Пікавай даме" П. Чайкоўскага. Творчы шлях працягваецца...

Вера КРОЗ

*НА ЗДЫМКАХ: Таццяна КНУТОВІЧ; сярод удзельнікаў спектакля "Набука" ў Італіі.*



***Сёлета новы фільм Ларса фон Трыера "ДОГВІЛЬ" (у перакладзе з англійскай — "Сабачы горад") меў ажыятаж на Канскім кінафестывалі. Цяпер і айчынны глядач меў магчымасць паглядзець на шырокім экране гэты шэдэўр знакамітага датчаніна. Паглядзець і адчуць трансфармацыю пачуццяў: ад шчырага замілавання на пачатку да шчырага жаху напрыканцы.***

# САБАЧАЕ ЖЫЦЦЁ Ў ДОГВІЛІ



А сабіста мне "ДОГВІЛЬ" падаўся своеасаблівым працягам "Той, што танчыць у цемры". Хоць і маюцца пэўныя адрозненні паміж гэтымі "амерыканскімі" фільмамі фон Трыера, але нельга не заўважыць і пэўнага падабенства.

Што тычыцца адрозненняў, дык бадай самае галоўнае — "Тая, што танчыць у цемры" пазалетась атрымала ў Канах Гран-пры, а "ДОГВІЛЮ" журы фестывалю галоўны прыз не дало. Палічыла палітычна некарэктным узнагароджваць карціну, якая ганьбіць амерыканскую глыбінку, у той час, калі Амерыка граміць ісламскі фундаменталізм ва ўсім свеце. Дзеянне "Той, што танчыць у цемры" адбываецца ў наш час, "ДОГВІЛЯ" — на пачатку Вялікай Дэпрэсіі. Персанажы "Той, што танчыць у цемры" дзейнічалі ў рэальных інтэр'ерах, "ДОГВІЛЯ" — у падкрэслена ўмоўных: сцэны дамоў і вуліцы пазначаны белымі абрысамі на чорнай падлозе. Нават вартавы сабака Майсей — толькі контур. Але і Майсей — дзейны персанаж.

Што да паралеляў, дык відавочна яны тычацца псіхалагічнай насычанасці персанажаў. Менавіта таму Ларс фон Трыер і з'яўляецца культавым рэжысёрам нашага часу, што ў яго фільмах няма выключна станоўчых або адмоўных персанажаў. Ёсць проста людзі, у душах якіх ужываюцца Боскае святло і Д'ябалвы змрок. І тыя людзі трапляюць ва ўмовы, калі найлепей спазнаеш, чаго больш у душы — святла або змроку. І звычайна выбар адбываецца не на карысць святла. У "Той, што танчыць у цемры" і ў "ДОГВІЛЮ" галоўныя гераіні (іх ролі выконвалі ісландка Бьёрк і аўстралійка Ніколь Кідман) пастаўлены ва ўмовы, якіх і горшаму ворагу не пажадаеш. Свет чалавечы павярнуўся да абедзвюх чорным бокам. Абедзве церпяць пакутлівую долю, пакуль не падварочваецца момант, калі можна адпомсціць. І ахвяра робіцца катам. Абедзве, праўда, помсцяць, каб сцвердзіць ідэалы дабра і справядлівасці. Але тым і заганны свет чалавечы, што такія ідэалы ў спрадвечнай чысціні могуць увасобіцца хіба што на могілках.

Таму і невыпадковы зварот Ларса фон Трыера да амерыканскай тэматыкі ў сваёй творчасці. Гвалт і забойствы — неад'емная рыса амерыканскай культурнай свядомасці з моманту фарміравання гэтай нацыі. І менавіта гэтая нацыя сёння змушае народы ўсяго свету — дзе парадамі, а дзе і ракетамі — прымаць дэмакратычныя ідэалы. Але ці могуць глыбока ўкараніцца ў народную свядомасць ідэалы, калі іх носьбіты — людзі далёкія ад маральнай дасканаласці? А калі так, дык варта не здзіўляцца на тое, што Амерыка вырашыць усе сусветныя праблемы, а нястомна прамаваць з уласнай душой, развіваць свой светапогляд. Гэтая праца — надзвычай цяжкая. Падчас яе ва ўнутраным свеце можна адкрыць такія глыбіні, што жах ахопіць. Але такая духоўная праца — адзінае, што дасць шанц чалавецтву на ўратаванне. Калі ж такая праца пойдзе ў памылковым накірунку — людзі загінуць: спярша маральна, а потым і фізічна. Усе стадыі гэтай смерці і дэманструюць жыхары Догвіля, на гасціннасць якіх паспадзявалася ўцякачка Грэйс (нехарактэрная роля для Ніколь Кідман).

Развагамі над тым, якімі маляўнічымі прыкладамі абудзіць свядомасць суграмадзян, натхніць іх на стваральнае жыццё, заклапочаны адзін з герояў фільма — малады Том, які марыць стаць знакамітым пісьменнікам. Але свае намаганні прыкладае не на тое, каб нешта напісаць, а на тое, каб ператварыць у пекла жыццё Грэйс, якую шчыра кахае. І з дапамогай жыхароў Догвіля свайго дамагаецца. Том першы і ўсведамляе, што менавіта ператварае добразычлівага амерыканца ў садыста-гвалтаўніка — пачуццё ўлады. Уладу над Грэйс атрымлівае кожны жыхар Догвіля. Улада грунтуецца на яе страху — каб хто не данёс, што яна тут хаваецца, яе бацьку-мафіёзі. Між тым, як тата Грэйс — яшчэ больш садыст і, да таго ж, валодае проста д'ябалавай гнуткасцю мыслення. Атрымліваецца, што каб ўратаваць Догвіль ад знішчэння, Грэйс вымушана цярпець пярыядычныя здзекі, гвалтаванні і да таго ж цягаць сабачы ашыйнік.

Але нездарма ў Бібліі сказана, што страшны бывае гнеў рахманых. І як толькі Грэйс усвядоміла, што сама нічым не лепшае за сваіх крыўдзіцеляў, дык абрынулася на іх з сатанінскай помстай. Догвіль спасцігае лёс Садома і Гаморы — горад, у якім няма праведнікаў, не доўга праісную. Але калі з Садома ўратаваўся хаця б Лот, дык з Догвіля — сабака Майсей, які з самага пачатку адчуваў, што з'яўленне Грэйс нікому не прынясе дабра. Маляваны контур ўцялесніцца, ажыве постаццю сапраўднага сабакі, якая будзе гаўкаць, нібы просячы адказу — чаму чалавек настолькі недасканалы?

Задаючы і сабе такое пытанне, узняўшыся ў сваім фільме да асэнсавання біблейскіх катэгорый, Ларс фон Трыер, як мне падаюся, глыбока засяродзіўся на пастулаце, выказаным звыш ста гадоў таму Фрыдрыхам Ніцшэ — "Бог памёр!" Прыхільнікі філасофіі Ніцшэ пазней асэнсавалі гэты пастулат наступным чынам: Усявышні стварыў чалавека па сваім падабенстве, але не паспеў давесці справу да канца, памёр несвоечасова. Вось далей чалавек сам і развіваецца, і яго развіццё скіравана зусім не ў лепшым накірунку. І адну з вехаў гэтага памылковага шляху Ларс фон Трыер спрабуе асэнсаваць. Кожны з герояў "ДОГВІЛЯ" на пачатку фільма —сумленны чалавек са сваімі дробнымі недахопамі. Але толькі з'яўляецца ў яго ўлада над тым, хто слабейшы, — ён ператвараецца ў звера, пяройдзе па той бок ад дабра і зла. Адзінае, што ўтрымае чалавека ад пераходу той мяжы — страх пакарання. У такім выпадку візіт брыгады кілераў у Догвіль выглядае натуральнай праявай гневу Боскага.

Дык што ў такім выпадку рабіць чалавеку, які спрабуе жыць у згодзе са сваім сумленнем? Прымірыцца з такім недасканалым светам, як паспрабавала гэта зрабіць Грэйс на пачатку фільма? Або паспрабаваць змяніць гэты свет, як спрабуе напрыканцы? Глядач сам зробіць для сябе высновы. Галоўнае, "ДОГВІЛЬ" не пакідае абыякавым. Фільм кранае за самыя балючыя струны душы — і гэта сведчанне, што душа яшчэ не памерла. А калі не памерла, дык ёсць і надзея. Надзея не толькі кожнаму чалавеку, што ён не будзе жыць сабачым жыццём у Сабачым горадзе, але і надзея для еўрапейскага кіно. Сёння Галівуд маналітнай камлыгай прыдавіў сусветны кінапракат. Але дасягненні Ларса фон Трыера, дый некаторых іншых рэжысёраў "Догмы", яскрава сведчаць, што і ў такога маналіта можна адваяваць сваю жыццёвую прастору. Для гэтага не трэба здымаць відовішчы-блакбастэры. Можна рабіць і таннае кіно, галоўнае, каб яно кранала душу і сэрца. Напрыклад, як "ДОГВІЛЬ".

**Ягор КОНЕЎ**

*НА ЗДЫМКУ: кадр з кінафільма "Догвіль"(фота з часопіса "РИО").*



***Манаграфію Ж. В. Некрашэвіч-Кароткай "Нясвіжская Мельпамена: драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл" (Мн.: ЕГУ, Прапілеі, 2002 г.) можна аднесці да шэрагу рэдкай кнігі. І не толькі таму, што яна выйшла накладам усяго толькі ў 300 асобнікаў, а таму, што "ў манаграфіі ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве даследаваны арыгінальныя камедыі, трагедыі і оперы княгіні Францішкі Уршулі Радзівіл".***

# «БЕЛАРУСКАЙ САФО» ПРЫСВЯЧАЕЦЦА




Як зазначае сама аўтарка кнігі ва ўступе, імя славутай у свой час "пані Радзівіл" да нядаўняга часу было малазнаёмым для беларускіх навукоўцаў і аматараў айчыннага пісьменства. Прычынай таму была ў першую чаргу недаступнасць драматычных тэкстаў нясвіжскай аўтаркі шырокаму колу чытачоў (адсутнасць сучасных перавыданняў яе кнігі "Камедыі і трагедыі..." 1754 г., адзіны экземпляр якой захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі), а таксама літаратуразнаўчы дагматызм савецкіх часоў, паводле якога творы не на беларускай мове не ўключаліся ў кантэкст гісторыі беларускай літаратуры". (Дарэчы, з манаграфіі можна даведацца, што ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве імя княгіні Радзівіл з'явілася ў кнізе У. Няфёда "Беларускі тэатр" (1959г.), праўда, не ў тэксце працы, а як адзначае Некрашэвіч-Кароткая, толькі ў подпісе да ілюстрацыі з выявою гравюры да камедыі "Дасціпнае каханне". — **В. Б.**)

Унікальная манаграфія складаецца з чатырох раздзелаў ("Чужая сярод сваіх: агляд крытычнай літаратуры"; "Усё жыццё — тэатр"; "Драматургічная творчасць Ф. У. Радзівіл: мастацкая адметнасць, уплывы, паэтыка"; "Мальераўская спадчына ў творчасці Ф. У. Радзівіл"), у якіх падрабязна, дасціпна і вельмі цікава распавядаецца аб усіх жыццёвых і творчых здабытках "беларускай Сафо". Змешчаны ў кнізе і цікавыя гістарычныя звесткі пра развіццё тэатра ў Еўропе, Рэчы Паспалітай, а таксама ў Нясвіжы. У склад манаграфіі ўваходзяць таксама і шэсць дадаткаў, некаторыя з якіх змяшчаюць інфармацыю пра акцёрскі склад Нясвіжскага тэатра Ф. У. Радзівіл, рэпертуар тэатраў Ф. У. Радзівіл і М. К. Радзівіл (1740—1762). Тры дадаткі ўяўляюць сабой сюжэтапараўнальныя і тэкстапараўнальныя табліцы да трагедыі "Справа Боскай наканаванасці, "Безразважлівы суддзя", твораў Ж.-Б. Мальера. Кніга аздоблена рэпрадукцыямі гравюр М. Жукоўскага, створаных ім пад уплывам драматургічнай спадчыны "пані Радзівіл", для твораў якой было ўласціва, як вынікае з манаграфіі "зменлівае і дынамічнае аб'яднанне рэнесансава-антычных і сярэднявечных (як нацыянальных, так і запазычаных, еўрапейскіх) элементаў, што перадусім і надавала ёй яскрава выражаны барокавы характар".

А ўвогуле, даследчыца Ж. Некрашэвіч-Кароткая робіць вынік, што "ў кожным драматычным творы княгіня Радзівіл рэалізуе сваё пісьменніцкае крэда, якое заключалася ва ўсебаковай аналогіі жанчыны, доказе "зверхнасці" жаночай натуры над мужчынскай... Да яе ніхто з драматургаў бадай што ўсёй Еўропы не пранікаў так глыбока ў таямніцы жаночай псіхалогіі. І, магчыма, менавіта яе верныя, цнатлівыя, вынаходлівыя і мудрыя гераіні па праве могуць лічыцца папярэдніцамі такіх намнога больш вядомых персанажаў, як Агатка Мацея Радзівіла, Юлія В. Дуніна-Марцінкевіча або Купалаўская Паўлінка".

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля Гродзенскага драматычнага тэатра "Навука кахання", прысвечанага Ф. У. Радзівіл.*

**Фота Г. ЖЫНКОВА**











***Нашай культуры пашчасціла, што ў геніяльнага паэта Янкі Купалы быў таленавіты пляменнік — мастак Янка РАМАНОЎСКІ. Дзяцінства будучага мастака прайшло ў сям'і паэта. Ён бачыў Івана Дамінікавіча так блізка, як мала хто. Быць сваяком генія — гэта ўдача, гонар і... крыж, часам даволі цяжкі, але які трэба несці з годнасцю. Бо ад носьбіта вялікага імя чакаюць адпаведнасці гэтаму імені.***



# ГАЛОЎНАЯ ТЭМА

Жыццё ў сям'і Купалы паўплывала на характар і "прафесійную арыентацыю" малога Янкі. Тыя, хто ведаў мастака, кажуць, што гэта быў спагадлівы, сціплы, але з выразным пачуццём уласнай годнасці чалавек.

Янка (Іван Юльевіч) Раманоўскі нарадзіўся ў 1928 годзе, памёр у 1974. У табелі аб рангах "нашага" мастацтва ён не ў першым шэрагу. Але пэўную ролю ў станаўленні беларускай графічнай школы ён адыграў. Мінскую мастацкую вучэльню ён скончыў у 1955, Тэатральна-мастацкі інстытут у 1959. У той час у нашай графіцы дамінавала гравюра па дрэве. Янка Раманоўскі быў з тых першых, хто асвойваў новую для нас па тым часе тэхніку — афорт.

Галоўная тэма ягонай творчасці — вобраз Янкі Купалы. Яна праходзіла праз усё жыццё мастака. Ад дыпломнай работы ў інстытуце да апошняга дня жыцця. Ён лічыў сваім мастакоўскім і грамадзянскім абавязкам занатаваць у гісторыі вобраз вялікага паэта Беларусі, даць сваю трактоўку ягоных літаратурных герояў. Да таго ж мастак зрабіў у пэўным сэнсе класічныя партрэты пісьменнікаў купалаўскага пакалення і шэрагу іхніх знакамітых папярэднікаў.

Зараз у Літаратурным музеі Янкі Купалы працуе выстава, прысвечаная 75-годдзю з дня нараджэння Янкі Раманоўскага.

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ

*НА ЗДЫМКАХ: 1. Я. РАМАНОЎСКІ; 2. Якуб КОЛАС; 3. "Купала з моладдзю"; 4. Янка КУПАЛА; 5. Кузьма ЧОРНЫ; 6. "А хто там ідзе?.."; 7. "Бандароўна"; 8. Адам МІЦКЕВІЧ.*

ФОТА К. ДРОБАВА










# ДУША З ДУШОЮ ГАВАРЫЛА...

*Яны пазнаёміліся выпадкова. Праўда, такія знаёмствы выпадковасцю не назавеш,бо яны,як здаецца, прадвызначаны Боскім жаданнем і наканаванасцю. Два інтэлігенты ў першым пакаленні. Абодва з былой Заходняй Беларусі, да таго ж, з Маладзечаншчыны. Абодва няўрымслівыя, апантаныя, самаахвярныя, аб'яднаныя думкай пра Беларусь, пра яе далейшы лёс. Гэта іх лучыла, нягледзячы на вялікую розніцу ў гадах. З часам тое знаёмства перарасло ў сапраўдную мужчынскую дружбу. Потым малодшы ў сваіх успамінах, часткова надрукаваных у часопісе "Куфэрак Віленшчыны", напіша пра старэйшага: "Прыемным адкрыццём у той час, акрамя М.Ермаловіча, я лічу знаёмства з Юльянам Сергіевічам. Цудоўным чалавекам, вельмі самабытным паэтам. Гэта быў патрыёт да мазга касцей. Прайшоў усё: некалькі польскіх турмаў, палон ( дзе быў з Я.Брылём), ссылку, але душой не зачарсцвеў. Заставаўся жывым, ветлівым, добрым. Жыў у Ленкаўшчыне".*

*Ад сябе застаецца дадаць, што і знаёмства іхняе адбылося, напэўна, у Ленкаўшчыне на пачатку 60-х гадоў. Калі малады студэнт Маскоўскага педагагічнага інстытута імя Леніна вымушаны быў у сувязі з абвастрэннем хваробы перавесціся са стацыянарнага аддзялення гісторыка-філалагічнага факультэта на завочнае і вярнуцца ў Беларусь. Працаваць уладкаваўся ў Ленкаўскую васьмігадовую школу, дакладней, у вёску Клочкава, бо школа была ў Клочкаве, а называлася Ленкаўская. Студэнтам тым быў Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі, у далейшым слынны даследчык, гонар і слава маладзечанскай зямлі.*

*А цяпер, каб нагадаць чытачам некаторыя біяграфічныя дадзеныя з жыцця людзей, пра якіх вядзецца размова ў гэтым матэрыяле, звернемся да даведніка "Беларускія пісьменнікі", які пабачыў свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1994 годзе. І коратка, курсіўна, перададзім змест іх жыццяпісаў.*

*Генадзь Каханоўскі нарадзіўся 6 студзеня 1936 г. у в.Дамашы Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыў Лебедзеўскую сярэднюю школу, служыў у Савецкай Арміі. Вучыўся ў Маскоўскім педінстытуце, які закончыў у 1963 годзе. Працаваў настаўнікам, навуковым супрацоўнікам, намеснікам дырэктара па навуковай рабоце, дырэктарам Мінскага абласнога краязнаўчага музея. З 1981 г. навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. У 1989 г. быў абраны старшынёй Беларускага краязнаўчага таварыства. Доктар гістарычных навук, член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар кніг па краязнаўстве, літаратуразнаўстве, археалогіі, фальклоры, музеязнаўстве, адзін з складальнікаў і аўтараў літаратурна-мастацкіх календароў "Кола дзён". Памёр 14 студзеня 1994 года і пахаваны ў Маладзечне на Насілаўскіх могілках.*

*Што датычыць старэйшага сябра, то звесткі пра яго захаваліся больш скупыя і няпоўныя. Нарадзіўся Юльян Сергіевіч 29 верасня 1910 года ў в.Юраўшчына, што на Маладзечаншчыне. Вучыўся ў пачатковай школе, займаўся самаадукацыяй. Быў актывістам Беларускай сялянска-работніцкай грамады і Таварыства беларускай школы. Служыў у польскім войску, потым працаваў у сельскай гаспадарцы. У час Другой сусветнай вайны трапіў у палон, парабкаваў на нямецкага баўэра, што паслужыла Янку Брылю падставай для стварэння аднаго з вобразаў у рамане "Птушкі і гнёзды". У савецкі час быў настаўнікам на Маладзечаншчыне. У 1946 г. незаконна рэпрэсіраваны. Пасля вызвалення працаваў у калгасе імя Леніна Маладзечанскага раёна. З вершамі і публіцыстыкай Ю.Сергіевіч пачаў выступаць у заходнебеларускай перыёдыцы. Друкаваўся ў часопісах "Маланка", "Шлях моладзі", калектыўным зборніку "Рунь веснаходу". Асобныя творы ўвайшлі ў зборнік заходнебеларускай паэзіі "Ростані волі", які выйшаў у 1990 г. пад рэдакцыяй Уладзіміра Калесніка. Памёр Юльян Сергіевіч 4 кастрычніка 1976 г. і пахаваны на сваёй радзіме.*

*Даволі значны адрэзак часу гэтыя людзі падтрымлівалі адзін аднаго духоўна і маральна. Сустракаліся, абмяркоўвалі балючыя пытанні тагачаснай рэчаіснасці, гаварылі аб літаратуры, мастацтве, гісторыі свайго роднага краю, Беларусі. Калі сустракацца па нейкай прычыне не выпадала, то звярталіся да ліставання. Тая перапіска налічвае дзесяткі, а можа, і сотні лістоў, якія беражліва захоўваюцца ў сямейным архіве незабыўнага Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага. Маленькую часцінку з той багатай эпісталярнай спадчыны з ласкавай згоды сям'і Каханоўскага мы і прапануем шаноўнаму чытачу газеты "Літаратура і мастацтва", каб і ён меў унікальную магчымасць далучыцца да размовы двух неабыякавых беларусаў, адчуў іхнюю шчырую заклапочанасць лёсам роднай культуры і яе будучыні. Каб ужо на адлегласці часу ўбачыў іхнюю чалавечую веліч і высакародства. І яшчэ раз, дзякуючы гэтаму ліставанню, уявіў сабе тыя гады, якія ўсё больш і больш аддаляюцца ад нас і робяцца ўласнасцю гісторыі, калі два чалавечыя сэрцы аднадумцаў стукалі ў адзін такт і душа з душою гаварыла.*

**Міхась КАЗЛОЎСКІ**

**28. IV. 65.**

Дарагі сябра!

Як ні дзіўна, але пісьмо маё з рукапісам для Калесніка дагэтуль без водгуку, — часамі блытаюцца недарэчныя думкі быццам яно загінула, бо паслана звычайным. Ад Максіма Танка адказ на пасланыя вершы ў "Полымя" атрымаў даволі хутка. Рэцэнзія яго хоць не пацешная для мяне, але з кругавіду "Полымя" дык даволі праўдзівая, бо я і сам сумняваўся ў тым, што ці могуць друкавацца мае вершы ў тым часопісе, які распаўсюджваецца нават у Амэрыку. Максім Танк піша так: "...У Вас ёсць адчуванне рытму, музыкі, багаты запасназіранняў; за Вашымі плячмі шмат цяжкіх дарог і пераж ытых нягод, — усё гэта магло б стаць нявычарпанай крыніцай Вашай творчасці, але ў выніку тых неспрыяючых умоў, якія перашкаджалі не толькі развіццю Вашых здольнасцяў, а і нармальнаму чалавечаму жыццю, майстэрства Ваша затрымалася на даўно пройдзеным нашай літаратурай шляху. Вершы вельмі расцягнуты. Вы стараецеся зарыфмаваць усё, што адносіцца да тэмы і амаль нічога не пакідаеце для падт..." (ніяк не змог прачытаць) "...Мова Ваша народная... багатая, але яна павінна быць і вобразнай. Вершы свае Вы будуеце без строгіх, архітэктурных... Яны часта пачынаюцца і канчаюцца выпуклымі радкамі. Вельмі хацелася б з Вашых твораў нешта надрукаваць. Прысылайце іх у "Полымя", пішыце. З Калеснікам буду хутка бачыцца, напомню яму пра Ваша пісьмо. Вельмі добра было б, каб ён уключыў некалькі і Вашых вершаў у гэты зборнік Заходнебеларускай літаратуры..."

Прызнаюся ў тым, што праўда, што "будуючы" вершы не маю паняцця аб нейкай там архітэктуры, ці рэльефе — мне хочацца ў вершах зацікавіць ці аб'яднаць тых, з якіх я выйшаў і ад якіх не адышоў, а жыву іхнім жа жыццём і больш таго, ведаю іхнія патрэбы. Я ведаю, што галоднаму чалавеку перш чым масла, трэба даць хлеба. Ведаю... аднак аб гэтым калісьці пагутарым.

**2. V. 1966**

Дарагі і паважаны Генадзь Аляксандравіч!

Моцна дзякуем я і жонка за святочнае прывітанне. З жахам прыняў вестку аб Вашай такой небяспечнай хваробе, а разам вялікая ўдзячнасць людзям "у белых халатах", якія адратавалі Вам жыццё. Вялікоднымі святамі быў я ў Мінску ў Янкі Брыля. Заехаў туды ў панядзелак па поўдні. Было вельмі прыгожае сонечнае надвор'е. Вяртаючыся дамоў у сераду раніцой я ідучы з цягніка заходзіў у музей з мэтай пабачыцца з Вамі. Мне сказалі, што Вы знаходзіцеся дома пасля бальніцы. Дом Ваш быў замкнёны, але не вісячым замком, так што я на ўсякі выпадак стукаўся ў дзверы, але ўсё дарэмна. Мне вельмі хацелася пабачыцца з Вамі — падзяліцца ўражаннямі. Пагутарыць было пра што і я маніўся дачакаўшыся нядзелі з'ездзіць да Вас, або да Ермаловіча, аднак прыйшлося так захварэць, што не мог галавы падняць. Зараз ня ведаю нават калі давядзецца сустрэцца, каб дастаткова пагутарыць, бо пачаліся пільныя веснавыя работы ў калгасе, а ў нядзелю трэба сабе рабіць. У час майго пабыту ў Мінску працягваўся працэс Вярхоўнага Суда Беларускай ССР у справе забойства св. пам. Хадановіча. На адным з пасяджэнняў быў і я з Янкам Брылём. У зале было вельмі многа — пазайманы былі ўсе крэслы. Пры мне былі паказанні экспертызы. Вельмі падрабязнае апісанне заняло ўвесь час пасяджэння. Былі два пракуроры, два адвакаты. Падсудныя таксама толькі двое. Ці друкаваўся дзе ў якой газеце ход працэса, дык я і не ведаю, бо чытаю толькі "Мінскую праўду". На судзе бачыў Ніла Гілевіча, Ген. Бураўкіна. Максім Танк быў у бальніцы — хвароба сэрца, адвядаць яго часцей, — дактары забараняюць.



РУНЬ ВЕСНАХОДУ

ЗБОРНІК ТВОРАЎ ПАЭТАЎ І ПІСЬМЕННІКАЎ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ВЫДАВЕЦКАГА Т-ВА.

ВІЛЬНЯ 1928.

У Бел. Дзярж. Тэатры імя Янкі Купалы адбывалася прэм'ера спектакля па раману Ів. Мележа "Людзі на балоце". Уражанне ашаламляючае. У Янкі Брыля я быў напярэдадні яго, ці лепш кажучы, іх паездкі на дэкаду творчасці ў Узбекістан. Гутарылі па тэлефоне з Ул. Калеснікам, які выбіраўся ў Мінск, каб разам ехаць (ляцець) у Ташкент. Калеснік меў для мяне кніжку "Паэзія змагання" (пра М. Танка) і фатаграфіі сустрэчы з Я. Брылём, аднак я ўжо не чакаў У. Калесніка — паехаў дамоў, а кніга і фота мне былі высланы па пошце. І. Мележ (я з ім крыху гутарыў у тэатры) абяцаў таксама прыслаць раман "Людзі на балоце", але перашкодзіла ўсё ж гэна падарожжа ў Ташкент.

Янка Брыль надзяліў мяне кнігамі даволі добрымі і цікавымі, пераважна беларускімі. Хацелася б апісываць больш цікава і падрабязна, але ўжо так позна і вочы зліпаюцца ад стомы. Што датычыць той бабкі, дык яна ёсць, але сям'я, ў якой яна жыве, хутка будзе перасяляцца ў Латвію на заўсёднае месцажыхарства, так што я нават не хадзіў пытацца. Ну і покуль што бывайце. Пастараюся наведаць Вас, толькі што ня ведаю, — калі. Калі што цікавіць, дык пішыце. Прашу выбачаць за так спешнае, а таму не вельмі дарэчнае пісанне.

**З прыветам Юл. Сергіевіч**

**26.І.1969**

Дарагі і вельмі паважаны Генадзь Аляксандравіч.

Я моцна дзякую за асаблівую ўвагу адносна пісьма да Канстанцыі Буйлы, тым больш, што ад яе самой бадай, што ці будзе які водгук, мяркуючы па вестцы той, што на святкаванні яе юбілею ў Маскве яна не прысутнічала і прывітальную тэлеграму пасылалі ёй у бальніцу.

Што датычыць аб змяшчэнні ў "Маладосці" такога матэрыялу, па якім моладзь трымалася б народных традыцый, дык мне здаецца, што матэрыялы такія спатыкаюцца. А вось у большасці выпадкаў сярод нашага сялянства традыцыі пераменіваюцца і прымаюць характар часамі непрыстойны, а нават шкодны, бо, ўсё такое злучаецца з гарэлкай.

Многія абараняюць п'янку, без якой, паводле іх думкі, жыццё было бы сумным. З гэтым можна было б яшчэ згадзіцца, але справа ў тым, што беларус па характары сваім вельмі шчыры, і калі што робіць — добра робіць, і калі п'е — добра п'е, а калі хто частуе — добра частуе, не зважаючы, што напітак з'яўляецца атрутай...

Вернемся яшчэ да традыцыйных гулянак у часе калядных свят. У навагоднюю ноч (па ст. стылю) сярод вёсак калісьці быў у дзяўчат звычай варажыць, дзесь сабраўшыся ў хату. Хлопцам туды ісці забаранялася, дык вось яны (хлопцы) каля тэй хаты, адкуль была дзяўчына занята варажбой, рабілі нейкія штукі. У той час у гэтым быў нейкі сэнс — было назаўтра днём што гаварыць, пасмяяцца. Сёння ж дзяўчыны ўжо не варожаць, а сярод хлопцаў захаваўся звычай, што ў навагоднюю ноч можна бяскарна рабіць усякае глупства, што ў галаву набрыдзе.

Вось жа грамада такіх падшыванцаў у ночы, завязаўшы знадворку дзверы, ня толькі што расцягваюць вароты ці дзверы, але разбіраюць і раскрываюць паветкі, нужнікі, залазяць на хаты, затыкаюць саломай ці анучай або снегам коміны — робяць усякія шкоды, а назаўтра нікога не дапытаеш, хто там быў, бо яны ж пакляліся "чэсным піянерскім" не выдавацца.

Вось аб такіх шкодных звычаях, аб іх паходжанні і аб віне распаўсюджвання было мной напісана і паслана ў Маладзечанскі раённы аддзел народнай асветы абшырнае пісьмо, якое канчалася просьбай шляхам гутарак на бацькоўскіх сходах. Адказу мне ніякага не было, бо я і не прасіў аб гэтым, але думаю, што ўсё ж пісьмо было прачытана з належнай увагай і быць можа, што абмяркоўвалася...

**З пашанай Ю. Сергіевіч**

**2 чэрвеня 1974 г.**

Дарагі і паважаны Генадзь Аляксандравіч!

Атрымаўшы пісьмо хочацца адказаць хоць бы таму, што мы, на жаль, рэдка калі сустракаемся ды й не заўсёды ёсць адпаведны час і ўмовы да гутаркі.

Мяне цікавіць, што за чалавек той, ды яшчэ такі няшчасны, які не гледзячы на такі сур'ёзны дэфект цікавіўся і напэўна дагэтуль цікавіцца літаратурай, а ў тым ліку маімі даўнейшымі вершамі. Хацелася б ведаць, хто ён, дзе жыве і таму падобнае, а маючы на ўвазе спачуванне няшчасным думаю, што трэба было б напісаць да яго — быць можа такі водгук на ягоную цікавасць будзе высакародным учынкам, які хоць крыху аблягчыць яго душэўны лёс.

А яшчэ прыпомніў я артыкул Міколы Ермаловіча ў "Полымі" (жнівень 1973 г.) "Яко луна солнечная". Аўтар безумоўна клапатліва шукаў звестак пра нашу асветніцу далёкай мінуўшчыны Еўфрасінню Полацкую. У сувязі з гэтым хачу заахвоціць Вас пры нагодзе, а можа, і спецыяльна наведаць Лоскую цэркаў. Памятаю, я калісьці пытаўся ў Вас, ці былі Вы ў гэнай царкве, каб пацікавіцца абразамі, якія, як відаць па форме і размеры, маляваны нейкім не быле-якім мастаком і або на месцы, або па спецыяльнаму заказу.

Хацелася мне аб гэтым пагаварыць з папом Антонам Семашкевічам, але ніколі не здарылася такога мамэнту. Нядаўна атрымаў я "Маладосць" № 5 заадрасаваны Янкам Брылём, у якім прадаўжаецца публікацыя дакументальнай працы "Я з вогненнай вёскі". Пісьма цяпер ад яго не было, але з пісьма ў пачатку года даведаўся, што публікацыя друкавалася ў "Маладосці" праз чатыры нумары і гэта мусіць яшчэ не апошняя. Трэба чакаць кнігі, якая будзе грамавым голасам маўклівых помнікаў і абеліскаў асуджаючых на праклящце ў вечнасці, фашысцкіх нелюдзяў.

Прывітанне ад жонкі, якая ўзрадавана Вашай заўвагай за добры пачастунак, што безумоўна ветліва перабольшваецца таму, што Вы ніколі не былі спадзяваным госцем, каб падрыхтаваць Вам належны прыём, а гэта было бы вельмі

**(Працяг на стар. 14—15)**

## ГУЛЬНЯ Ў ЛЯЛЬКІ

***У выставачнай зале Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці (вул. Гікало, 4) дэманструецца выстава лялек, якую арганізаваў Беларускі саюз майстроў народнай творчасці. На выставе прадстаўлены лялькі, зробленыя майстрамі гэтага саюза, а таксама сябрамі Беларускага саюза дызайнераў.***



**По словах выканаўчага дырэктара Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Ірыны Штэфан, гэтая выстава ў сакавіку дэманстравалася ў галерэі «Славутасць» і атрымала добрыя водгукі. Наведвальнікаў было шмат. Гэта падштурхнула саюз майстроў арганізаваць яшчэ адну выставу і запрасіць на яе ўсіх, хто не паспеў паглядзець першую.**

**Як адзначыла І. Штэфан, на Беларусі шмат цудоўных майстроў-лялечнікаў. Імёны Ганны Балаш і Мікалая Байрачнага даўно вядомы за межамі радзімы. У прыватных калекцыях розных краін ёсць лялькі, зробленыя Ганнай Свечнікавай, Ірынай Ражко ды іншымі беларускімі лялечнікамі.**

**Дарэчы, цікавае пытанне – як лепей называць лялечнікаў: майстры ці мастакі? Але, здаецца, калі называць іх проста лялечнікамі, то гэта будзе самай лепшай назвай іх прафесіі, што нясе радасць дзецям і дарослым.**

**На выставе ў АНМЦ арганізатары прадставілі лялькі Аляксея Мартынава, Марыі Капілавай, Марыны Скідан, Ганны Свечнікавай, Ірыны Ражко, Вольгі Старынскай ды іншых лялечнікаў. Калі ў вас будзе вольны час, абавязкова наведайце выставачную залу Мінскага цэнтра народнай творчасці, не пашкадуеце. Па планах арганізатараў, яна будзе працаваць на працягу месяца.**

**Л. КАРАЧУН**

*НА ЗДЫМКАХ: экспанаты з выставы лялек.*



# ДУША З ДУШОЮ ГАВАРЫЛА

**(Працяг. Пачатак на стар.13)**

пажадана. На жаль, абставіны нашы вельмі скупыя на вольны час, каб дамовіцца на сапраўдную, прыемную свабодную бяседу. Тым часам усяго Вам найлепшага.

**Юлік Сергіевіч**
**4.ІІ.1976**

Добры дзень Генадзь Аляксандравіч!

Пісьмо праф. Я. Янкоўскаму было напісана 1-га лютага і адпраўлена ўчора (такая ў нас поштаабслуга). Вам напісаць адначасна ня змог па той простай прычыне, што вычарпаліся канверты (гэта ж не ў горадзе). Слова "паўтатак" у пісьме Янкоўскаму было шырока абмеркавана, а таксама было параўнана да іншых слоў-наватвораў, якія радзіліся на грунце народнага досціпу жартаў і іроніі.

"Паўтатак" як і "паўпапак" словы не папулярныя, яны не ўваходзяць у аснову нашай мовы, але ўжываюцца ў форме нібы насмешлівай нібы зняважлівай. "Паўтаткаў" зараз многа — яны ёсць амаль у кожнай вёсцы, але слова такое не ўжываецца ў форме звароту да тэй асобы (ад каго і да каго належыць). Таксама і слова "айчым" не ўжываецца ў звароце — дзеці павінны зваць яго татам, але калі такі тата адносна дзяцей і наогул вядзе сябе няўдала, дык трэба вялікага прымусу зваць яго татам, ды й які ж ён тата — гэта проста "паўтатак".

"паўтаткам", праз што навязаў паштовую лучнасць з праф. Янкоўскім. Пакуль што не буду хваліцца яго карэспандэнцыяй, але прыслаў мне бандэроль, у якой тры цікавыя і патрэбныя мне кніжкі: 1. Г. М. Малажай "Беларуская перыфраза", 2. Мінскі педагагічны інстытут А. М. Горкага "Матэрыялы для слоўніка" і Ф. Янкоўскі "Роднае слова". У кожнай кнізе аўтаграфічныя надпісы з заўвагай і шкадаваннем, аб немагчымасці з прычыны нястачы паслаць буйнейшай больш цэннай працы. Пасля гадавога маўчання сёлета асабліва разшчодрыўся і Янка Брыль. У часе навагодняй пераклічкі даведаўшыся, што я не маю кнігі "Я з вогненнай вёскі", ён прыслаў мне вельмі хутка з пісьмовым паясненнем, таго, што палічыў быццам выслаў мне ў часе масавай высылкі сваім апытальным героям-мучанікам, на што разышлося 300 экземпляраў. 250 экземпляраў закупіў Саюз пісьменнікаў для падарункаў зацікаўленым асобам. Хутка вялікім тыражом выйдзе кніга на рускай мове, а яшчэ маюць намер выдаць у Балгарыі, Венгрыі і ГДР, а таксама па гэтаму пытанню наведваў выдавецтва журналіст з Турцыі. Янку Брылю падабаліся заўвагі адносна кнігі і ён пры сустрэчы з праф. Янкоўскім успамінаў мяне пасля чаго выслаў брашурку Янкоўскага "Абразкі", а пасля яшчэ два разы высылаў польскія кнігі. Зараз ён да 2.ІІІ. знаходзіцца ў доме творчасці пісьменнікаў Юрмала ў Латвіі. Ус-



Ю. Сергіевіч з жонкай.

Выступленне Петруся Броўкі ў "ЛіМе" я чытаў. Віншавання я ніякага не пасылаў — дзе мне там "лезці ў вочы" П. Броўку. Паслаў я толькі адзін верш "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя", але і то я не пасмеў бы таго зрабіць, каб не ўгаварыў мяне Арсень Ліс, які летам быў у мяне і пераглядаў мае вершы. Як і трэба літаратуразнаўцу, ён да вершаў адносіўся крытычна, але гэты верш усё ж становіча ўгаварыў, каб я паслаў. Ад яго я даведаўся, што Пятрусь Броўка смяротна хворы, быццам і дні яго ўжо палічаны, дык "вось — кажа — пашліце яму той верш, ён яго падтрымае духоўна, а разам і фізічна, ўсё ж даўжэй пажыве. Тым часам па творчасці і наогул па працавітасці П. Броўкі гэтага не відаць, а выступленне яго такое энергічнае, бадзёрае, што ніяк нельга пагадзіцца з тым, што гэты чалавек безнадзейна хворы, бо ў такім веку ды быць настолькі энергічным, дык трэба думаць, што ён у добрым здароўі.

Вось прачытаўшы ў "ЛіМе", што мой верш "глыбока ўзрушыў" — я хваліўся жонкі, што вылечыў сваім вершам Петруся Броўку — няхай не наракае на мяне, што я такі нікчэмны, не дбаю пра гаспадарку, але дзе быўшы над кнігамі і паперамі сяджу.

Ну няхай на гэтым будзе ўсё.

Усяго добрага Вам.

**З павагай Ю. Сергіевіч**

**19.ІІ.1976**

Паважаны і дарагі Генадзь Аляксандравіч!

З узаемнай удзячнасцю часамі вынікаюць такія дасціпныя моўныя асаблівасці, як "дзякуй за спасіба", а між намі дзякуй за ўдзячнасць, бо і сапраўды я моцна дзякую за тое пісьмо з памінаў у пісьме гутарку пра мяне з Петрусём Броўкам пры выпадковай сустрэчы на вуліцы ў Мінску і пытаўся ці чытаў я водгук Броўкі ў "ЛіМе" на мой верш з нагоды выдання БелСЭ. Вось такія збольшага ў мяне навіны. На здароўі чуюся ня дрэнна, бо шануюся г.зн. пазбягаю цяжкіх работ, шумных бяседаў, выпіўкі і т.пад. Ну і пакуль што ўсяго найлепшага.

**З павагай Юл. Сергіевіч**

**30.ІІІ.1976**

Паважаны і дарагі Генадзь Аляксандравіч!

Я вельмі задаволены Вашай заўвагай пра тое, што можна было б, ды яшчэ і добра было б, даслаць сваю творчасць у "Дзень паэзіі" за пасрэдніцтвам Янкі Брыля, бо я так і зрабіў, не дачакаўшыся адраса Мастацкай Літаратуры.

Вельмі шкада Содаля — няўжо бяссільная сучасная медыцына і маладыя таленавіты чалавек мае быць асуджаны на жывую смерць?

Мне думаецца, што калі яму так падабаўся мой верш "Не пакідайце роднай мовы", — гэта энтузіяст роднага слова, гэткім людзям глыбокая пашана.

А вось яшчэ цікава, ды як Вам яно відаць больш як каму патрэбна. Ёсць вёскі, якія ў народзе завуцца так, а ў дакументах іх па нейкай прычыне перайначылі і завуць зусім інакш. Некаторыя змяненні зразумелыя, напрыклад, пад Смаргонню вёску "Цары" яшчэ паляки перайменавалі на "Трэці май", а цяпер завуць Першамай — гэта зразумела, што памяць пра цароў трэба, каб згасла. Але вось ёсць вёскі, якія навакольнае насельніцтва ніяк не хоча пераменіць. Каля нас ёсць вёска Барздыня і ніяк ня могуць прывыкнуць зваць вёску Румянцава. Едучы ад Лебедзева да Маркава прыглядаючыся налева, мы заўважым таблічку Юхавічы, але вёска тая здаўна завецца Кузюткі і я нават ня ведаў адкуль узяліся нейкія Юхавічы. Думаю, што ў Вас яшчэ больш прыкладаў, а яшчэ думаю, што гэта ў галіне Вашай цікавасці. Чаму змяняюцца геаграфічныя назвы і ў чым гэта інтарэсе тады, калі тубыльцы ніяк не могуць прывыкнуць да перайначаных назваў?..

**З павагай Ю. Сергіевіч**

**18.ІV.1976**

Добры дзень, Генадзь Аляксандравіч!

Апошняе пісьмо Ваша вельмі змястоўнае навінамі. Пачну так, як і Вы з Шыдлоўскага. Я катэгарычна не адмаўляюся напісаць да яго, але чакаю іншай нагоды, быць можа неўзабаве пачую або прачытаю пра яго.

Адносна Вашых цэнных находак, дык вельмі добра было б, ды й трэба хоць часткова падаць да агульнай цікавасці. Думаю, што ў Вас ёсць на мэце такія дзейнікі, што памогуць у гэтым, бо здаць такія матэрыялы ў Акадэмію навук — гэта так тое, што і камень утапіць і чакаць пакуль выплыве... А вось, што датычыць птушкі бакас, дык як мы ездзілі на Вушу касіць і ўбіраць там яны былі. Бачыць мне не прыйшлося, але гук падобны на бляянне, прыходзілася чуць часта. Птушку тую звалі "баран", бо рассякаемае пер'ем паветра давала гук вельмі падобны на прыглушанае бляянне барана. Казой у нас не маглі назваць таму, што каля нас козаў амаль што няма.

А вось у БелСЭ пра бакаса напісана інакш, хоць і ня вельмі. Лацінская назва амаль што так, але сямейства не кулікова, а сеўцападобных. Асаблівае ўражанне зрабіў на мяне прачытаны ў "Камсамольскай праўдзе" артыкул Б. Палявога. Гэта яшчэ адна ступень, якая ўзвышае аўтарытэт нашай старонкі — Беларусі.

У канцы сакавіка Содаль прыслаў мне "Голас Радзімы", каб я пазнаёміўся з яго артыкулам "З памяці народнай" і разам пісьмо з просьбай, каб хоць штонебудзь, але каб напісаў пра Багушэвіча. Адказ я даў даволі абшырны, дзе між іншым папракнуў шукальнікаў "багушэвічаўскай шкатулкі" ў тым, што з аднаго боку настойліва шукаюць і нават друкуюць з пераказаў багушэвічаўскую творчасць, а з другога боку выкідаюць у забыццё тое неацэннае, што ёсць і прыжылося ў памяць народную з папярэдніх выданняў. Тут я даў пад увагу нібы поўны збор творчасці Багушэвіча сабраны Сцяпанам Александровічам, з якога выкінуты такія творы як "Панскае ігрышча" і "Адказ на панскія ігрышчы", "Жыдок", "Не люблю я места — па-расейску горад". Нават ня помню (бо кнігі не маю), ці ёсць "Хцівец і скарб на св. Яна. Паміма таго, што я ўжо не спадзяваўся адказу, Содаль прыслаў яшчэ адзін артыкул з "Голасу Радзімы" пра Багушэвіча і вельмі



Г.Каханоўскі

абшырнае пісьмо, у якім моцна дзякуе мне за слушныя заўвагі і ўпэўнівае, што ў хуткім часе будзе такое выданне, дзе пад адной вокладкай будзе ўсё, што толькі ёсць, змяшчацца.

У далейшым Содаль адкрываецца са сваёй марай выдаць нарыс пра Ф. Багушэвіча. Задума гэта ўжо ня новая і шмат у чым падрыхтавана. Ён вядзе перапіску з братамі Каспяровічамі з Польшчы, якія былі калісьці ў блізкім суседстве з Багушэвічам, апроч таго мае пісьмовую сувязь з унучкай яго...

Рэч вядомая, ў адказе я выказаў захапленне і шчырае пажаданне поспехаў

у так настойлівай, але за тое прыгожай працы...

Такая прыпадковая смерць Дубоўкі моцна ўразіла мяне. Паводле звестак ён быў хоць стары, але здаровы. Перажыўшы такія нягоды, мог бы яшчэ пажыць, але вось як яно зробіцца, — ніколі не падумана.

**З павагай Ю. Сергіевіч**

**5.IV.1976**

Дарагі Генадзь Аляксандравіч!

Моцна дзякую за пісьмо, у якім адразу ж некалькі цікавых фрагментаў.

Пра Шыдлоўскага я чуў па радыё, але не ведаў, дзе ён — думаў, што ў Смаргонях. Чуў таксама яго хор, які вельмі падабаўся. Наладзіць перапіску з ім хацелася б, але напісаць так проста з маста як да лекара мабыць не пасмею ў узгляду на другую палавіну XX века савецкай рэчаіснасці. Аховы здароўя пры чым чалавек можа абразіць лішні клопат. Сродкаў ад крывяногa ціску ёсць многа і некаторыя з іх я ўжываю (настойка калінавых ягод). Вельмі цікавыя Вашы находкі тых рукапісаў, думаю, што па дакладным вывучэнні Вы іх апублікуеце — гэта адносна тэй, як Вы кажаце Энцыклапедыі раслін і жывёл. Калі гэта саматужная чыя праца, дык, безумоўна, што трэба асвятліць высакароднае імя аўтара.

Няменш цікавая і творчасць даўно загінуўшага. Над гэтым трэба сапраўды папрацаваць. Шкада, што Вы не падалі яго імя, а таксама не падалі, на якой мове пісьменнасць.

Як бы аднак не было — гэта для Вас шырокае поле дзеяння, быць можа, што ў гэтым Вам нехта і пазайздросціць. Чаму так кажу, бо прыпомніўся мне ізноў Содаль, які нядаўна ізноў прыслаў мне пакет з газетай, каб пазнаёміўся з яго артыкулам "З памяці народнай" і пісьмо, у якім настойліва просіць, каб што-небудзь хоць даўно чутна, хоць легенду, але каб напісаў пра Багушэвіча. Я змушаны быў яшчэ раз паўтарыць, што мой верш "Не пакідайце роднай мовы" быў не чым іншым, як распрацоўкай Багушэвічаўскага закліку на сённяшні лад, а пра самога Багушэвіча нічога я не мог чуць і ведаць, бо нават ніколі не быў у тых мясцінах.

Пра пошукі "шкатулкі" з рукапісамі Багушэвіча таксама зрабіў заўвагу, што, мабыць, ня горшы шукальнік Мальдзіс і таксама не натрапіць на след хоць ужо вельмі многа патраціў энергіі.

Нарэшце, папракнуў я ў тым, што так зусюль шукаеце Багушэвічаўскага слова, а тое, што ёсць ды такое цэннае, што ў народзе нават завучанае, выкідаецца.

Бо сапраўды меў я (зараз няма) здаецца, што поўны зборнік Багушэвічаўскай творчасці — вершы і прозы, а нават былі там судовыя справы, а вось вершы не ўсе там былі.

Не было там верша "Жыдок". Не было "Панскае ігрышча" і "Адказ на панскае ігрышча". Не было (забыўся назву) "Не люблю я места — па-расійску горад"... Дык ці ня лепш, чым траціць энергію, шукаць штосьці ў памяці народнай (і знайшоўшы што падаць з такой недакладнасцю зневажаючай аўтара) захаваць у поўнасці тое, што ёсць, а гэтага ўжо даволі хопіць, каб назваць неацэннай спадчынай Бацькі беларускага адраджэння.

Нядаўна атрымаў ад Брыля дзве кнігі яго перакладаў з польскага Э. Ажэшкі і М. Ю. Канановіча. Вершы мае "з пажаданнем шчаслівай дарогі" перадаў Паўлаву.

Усяго Вам найлепшага.

**Ю. Сергіевіч**
**2.II.1976**

Дарагі Генадзь Аляксандравіч!

Вы дагадаліся, што я занядужаў. Прыйшлося з 18. V да сёння прабыць у Беніцкай бальніцы. З бальніцы напісаць я змог толькі Янку Брылю (і атрымаў адказ), бо быў канверт, а больш нікому не адпісаў па тэй простай прычыне, што не было такой прыслугі даставіць канверт. Пошта даволі далёка ад бальніцы.

"Святло камунізму" я не атрымліваю, але У. Зянько са старонак газеты вядомы. Не ведаў я толькі, што гэта незвычайны самародак-умелец і таму цікаўлюся ім. Хацелася б падабраць зручны мамэнт пазнаёміцца з такім чалавекам, але пакуль што не магу нічога зрэалізаваць — можа, у далейшым крыху ачухаюся ад гэтай хваробы, тады нешта прыдумаем, каб наладзіць сустрэчу.

Язэп Мацвеевіч наведаваў мяне яшчэ перад бальніцай. Было часу пагутарыць, паразважаць на многія цікавыя тэмы. Многа чым падабаецца Язэп, гаварыць з ім — гэта асалода, але... ён ці не за лішняе ведае, таму, што слухае і ўспрымае адтуль, дзе не трэба. Апроч таго напісаў у асобны сшытак такую расцягнутую бязглуздзіцу, якую называе паэмай і тая паэма пасвячаецца Вам — можа быць дагэтуль ён яе даручыў? І ўсё ж цікава — у гутарцы такі літаратуразнаўца і аматар, — улюбёны ў паэзію, а сваё да нікчэмнасці неапрацаванае... Ну, але такой бяды.

Больш заблытаная, незразумелая, справа з Галінай Асіповіч. Гэта сапраўды загадка без разгадкі. Прыпамінаючы далёкае мінулае, дык няма нічога дзіўнага, што нашы продкі верылі ў чары ўрокі, закляцці і іншыя ўсялякія забабоны. Дык вось калі ёсць і зараз веруючыя ў гэта, дык яны інакш ня могуць вытлумачыць разладу сямейнага жыцця Галіны і Валерыя Асіповічаў, як нейкае накінутае між імі закляцце. Муж Галіны Валеры, вельмі сімпатычны, прыстойны і даволі развіты. У іх вельмі прыгожы хлопчык у самай цікавай стадыі развіцця. Яны некалькі разоў нас наведвалі. Мы з жонкай не маглі нацешыцца з удала падабранай пары і не маглі заўважыць між імі найменшай цені нязгоды. Тым часам яны развяліся нават цераз суд. Давялося слухаць меркаванні аб гэтым ад некалькіх асобаў, але станоўчага такога нельга было вывесці. Найбольш вінавацяці яе. Кажуць, што між іх быў нехта трэці. Так не хацелася б гэтаму верыць, але ж праўда — яна найчасцей бывае горкая і калючая. Пісаў я да яе калісьці пісьмо без ніякага намёку пра іхні разлад, як заўсёды ўнушальнае заахвочваючае да вершатворства. Гэта было ў часе пасылкі маіх вершаў у "Дзень Паэзіі". Заахвочваў яе паслаць свае вершы, якія я больш цаню чым свае таму, што яны за сэрца чапляюцца. Пісьмо сталася каменем у ваду. Так ніколі не было... На гэтым усё. Хацелася б пагутарыць пры спатканні і з часам. Усяго добрага. Да пабачэння.

**Ю. Сергіевіч**

**18.VIII.1976**

Добры дзень, Генадзь Аляксандравіч!

Пакуль што я дзякую Вам за клопаты аб маім "здароўі". Гэта адносна перапісанага і прынесенага мне адрасу эстонскага цудатворца. Зараз на жаль зрэалізаваць гэта не магу, бо чуюся вельмі слаба — магу толькі ляжаць, сядзець і думаць. У панядзелак 16-га я дастаўся ў Вялейку. Як не дзіўна, але мяне там класціся не прынялі. Абслухаўшы доктар на прыеме адразу ж стаў пісаць напраўленне ў бальніцу па "месце жыхарства". На мой пратэст, што я ехаў так далёка не дачакаўшы ўказанага тэрміну таму, што пачуўся дрэнна — няма чым дыхаць, што трэба ад лёгкага выпампаваць вадкасць — доктар пачаў даваць высненні:

— У нас, — кажа, — анкалагічныя абследаванні і паколькі Вы прыехалі рана мы нічога не можам дакладнага сказаць. Пры метадах абследавання Вам давалі сільныя лякарствы, якія аслабілі Ваш арганізм. Зараз Вам патрэбнае лячэнне, общеукрепляющее, якое Вам прыменяць у сваёй бальніцы, а такіх, як Вы зараз, мы не лечым, бо нам не хапіла бы месца таму, што анкалагічны дыспансер разлічваецца на ўсю Мінскую вобласць.

Дыягназ такі: "Орг. заболевание правого лёгкого, ателезсредней и нижней долей, нижне долевой плеврит.

Нуждается в лечении симптоматическом по месту жительства".

Так што калі б я пакрапчэў у бальніцы, тады можа і паехаў бы ў Эстонію, а зараз няма чаго і думаць, а паслаць каго завочна з дыягназамі гэта, мабыць, не дасць эфекту, а найбольш тое, што няма каго паслаць, хоць на гэта не шкадаваў бы грошай.

Хадзіў да тэлефона пытацца ці будзе назаўтра месца ў бальніцы адказалі, што ўсе заняты. Буду званіць, каб адказалі, калі пакінуць для мяне там месца, але гэта ўжо без мяне зробяць, а мне накажуць — тут блізка, а для мяне вельмі далёка, бо не магу і хадзіць.

Працу над Успамінамі пачаў. Напісана ўжо 15 старонак дробнага (у кожнай клетачцы), але выразнага чытэльнага шрыфту. Пісаць буду сшыткамі, якія па 18 лістоў. Пакуль што апісаны падзеі ў раздзелах наступных: 1. Дзіцячыя гады. 2. Школьныя гады. 3. Школьны год 1921—22. 4. Саматужная асвета. 5. Войска польскае. Зараз пачну раздзел 6. Павал Асіповіч (той якім Вы цікавіцеся). Старонкі кожнага томіка (сшытка) будуць панумараваны і ў канцы будзе пададзены спіс зместу па раздзелах.

У рэгістратуры Вілейскага дыспансера мне даручылі пісьмо і бандэроль ад Янкі Брыля. Прыслаў сваю кнігу "У сям'і" — вельмі прыгожае выдатнае і цікавае апавяданне. Учора адказаў яму.

Ну і ўсё. Спяшаю, бо зараз паштальён павінен быць.

**З павагай Ю. Сергіевіч**

**P.S.** Ад Зянько атрымаў пісьмо, але яшчэ не адпісваў.

**Публікацыя Міхася КАЗЛОЎСКАГА**

**ДАНІНА ПАВАГІ**

# «І З ЛЮБОЎЮ ДЗЕЦЯМ ПЕРАДАМ...»

Мы ўсё часцей вяртаемся да разумення многіх адвечных ісцін. У тым ліку і да той, што прагрэс у любой сферы пачынаецца, ці абумоўліваецца, уласна-прыватнай ініцыятывай. Само сабою, вядома, што ініцыятыва гэтая залежыць ад тых ці іншых чалавечых ці жыццёвых абставін і акалічнасцей...

Так сталася, што настаўніцу Яніну Іванаўну Плашчынскую лёс зводзіў з многімі беларускімі пісьменнікамі. А што да Пімена Емяльянавіча, дык — няйначай планіда нейкая, адмысловы лёсавы знак. Яшчэ ў 1973 годзе яна апынулася "побач" з ім на адной паласе "Настаўніцкай газеты": тады там былі змешчаны інфармацыі пра тое, што П. Панчанку нададзена званне народнага паэта, і пра яе, настаўніцу Я. Плашчынскую, пра ейныя "творчыя" поспехі ў навучанні дзяцей. А потым было знаёмства з Панчанкавай дачкой Таццянай Піменаўнай (сястра Яніны Іванаўны працавала разам з ёй у рэдакцыі "Беларускай савецкай энцыклапедыі"), былі сустрэчы з і самім Піменам Емяльянавічам, і доўгія гады сяброўства з ягонымі творамі — і найперш не па абавязку прафесіі, а па абавязку душы, любові. Урэшце, невыпадковым бачыцца і тое, што калі пяць гадоў назад у новым мікрараёне сталіцы Сухарава на вуліцы Пімена Панчанкі адкрылася новая — 199-я — школа, дырэктар Сяргей Пятровіч Странкоўскі запрасіў да сябе на працу акурат Яніну Плашчынскую. Гэта быў знак, што самім лёсам наканавана займець у школе, што паўстала на вуліцы Пімена Панчанкі, музей народнага паэта і тым самым "атаясаміць" школу і вуліцу. Ідэя ўзнікла ў рэальных формах і рэчах. Ажыццяўленне яе было даручана Яніне Іванаўне. Зерне ўпала не на камень, а на ўрадлівую глебу...

Стварыць музей, няхай сабе нават і школьны, — справа нялёгкая, клапатлівая. Асабліва — калі яшчэ й абставіны не спрыяюць (нечакана памерла Таццяна Піменаўна, пасля — і сын ягоны, які падраджаўся дапамагаць, а потым і ўдава паэта Зоя Кірылаўна, якая з радасцю падтрымала задуму кіраўніцтва школы ў Сухарава). Тым не менш, музей паўстаў, запрацаваў (і запрацаваў на будучыню), і сёння ў ім, дайце веры, каля 1000 экспанатаў! І зусім не выпадковых, не прыцягнутых, як кажуць, за вушы, сабраных зусім не па прынцыпе "абы запоўніць" стэлажы ды завешаць сцены. Кожны мае сваю багатую гісторыю і здольны распавесці не толькі ўласна пра Пімена Емяльянавіча, але і пра жыццё Беларусі і ўсяго свету. Балазе, біяграфія паэта сапраўды здзіўляе сваёй разнастайнасцю і насычанасцю, лёс — жыццёвы і творчы — быў пакручасты, пакідаў па свеце нямала. Акрамя кніжак і унікальных фотаздымкаў тут нямала экспанатаў-прадметаў: фотаапарат "ФЭД", з якім паэт аб'ездзіў паўсвета, ключыкі больш чым ад паўтузіна чамаданаў, якія браў з сабою ў дарогу, любімая брытва, любімы кубак, самапіскі, значкі, памятныя медалі і многае іншае. Ну хоць бы адмысловы звон, адліты па ўсіх правілах ліцця ў Валдаі і падараваны Пімену Емяльянавічу "як валдашу ад валдашоў". Альбо пінжак паэта разам з медалём "50 гадоў Перамогі" (яго акурат у дзень адкрыцця музея перадаў школе муж унучкі паэта Ксені). Гэта апошні пінжак паэта, які ён купіў спецыяльна да 50-годдзя Перамогі, але так і не паспеў апрануць яго — памёр у красавіку 1995-га...

Кіраўніцтва школы звязвае з музеем немалыя спадзяванні. Ён павінен стаць цэнтрам патрыятычнага выхавання вучняў. Мяркуецца распрацаваць і праводзіць тут розныя, тэматычна і ўзростава, экскурсіі (напрыклад, "Панчанка і Вялікая Айчынная вайна", "Панчанка і Мінск", "Знакамітыя мясціны Беларусі ў творчасці Панчанкі" і г.д.), размясціць інфармацыю пра музей на інтэрнетаўскім сайце школы, наладзіць супрацоўніцтва з бліжэйшымі школамі Фрунзенскага раёна сталіцы і са школамі Бягомльшчыны — малой радзімы паэта.

Радок, вынесены ў загаловак, як чытачы "ЛіМа", напэўна ж, здагадаліся, — з панчанкаўскага верша пра родны край, які паэт гэтак моцна любіў.

**М. ЧАМЯРЫЦА**

**ВЫДАННІ**

# ТЫМ, ХТО ВЫВУЧАЕ КУЛЬТУРУ

Вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, кандыдат гістарычных навук Эдуард Дубянецкі выпусціў сёлета ўласны (!) энцыклапедычны даведнік "Культуралогія". Выйшаў ён у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя". Аб'ёмнае выданне па колькасці старонак, грунтоўнае па змесце. Разгледжаны ў ім пытанні гісторыі, тэорыі культуры, культуралагічныя паняцці і тэрміны, школы і напрамкі культуралогіі. Асвятляюцца біяграфічныя дэталі, звязаныя з жыццём, навуковай і творчай дзейнасцю дзеячаў культуры, вядомых мысліцеляў і культуролагаў. Кніга багата ілюстравана, адрасавана шырокаму колу чытачоў. Даведнік з'яўляецца першым у Беларусі выданнем такога кшталту. Гэта плён шматгадовай руплівай працы аўтара, які сабраў велізарнейшую інфармацыю па розных галінах ведаў, здолеў асэнсаваць яе і перадаць у цікавай і займальнай форме. Энцыклапедычны даведнік выйшаў буйным для нашага часу тыражом — 3 тысячы асобнікаў. Хочацца спадзявацца, што ён знойдзе свайго ўдзячнага зацікаўленага чытача. Асабліва каштоўным робяць гэтае выданне змешчаныя ў ім звесткі адносна паняццяў беларускай нацыянальнай культуры — такіх, як беларуская іканапісная школа, беларуская рэзь, віленскае барока, школьны тэатр і многія інш.

**С. Я.**

**ВЫСТАВЫ**

# УСЯГО ТРЫ ДНІ...

Тры дні, з 29 па 31 кастрычніка, у галерэі "Мастацтва", што на праспекце Францішка Скарыны (больш вядомая грамадзе, як "салон") праходзіла выстава твораў жывапісца Алеся Марачкіна. На выставах гэтага майстра заўжды чакаеш чагосьці нечаканага, нязвыклага. Мастак ужо не аднойчы змяняў і стылістыку і сюжэтную лінію сваіх твораў, застаючыся пры гэтым верным сваёй адзінай тэме — Беларусі. Вось і гэтым разам мастак прадставіў творы, што ўяўляюць сабою асацыятыўны шэраг, народжаны рэаліямі нашага жыцця.

Згодна памеру — гэта жывапісныя мініяцюры, згодна стылістыцы — эцюды. Я параўнаў бы іх з дзённікавымі запісамі, з якіх можа атрымацца і нарыс, і аповед, і кніга — а можа, гэта так і застацца радком у нататніку, цікавым самому аўтару ды шчыльнаму колу даследчыкаў.

Мастак кажа, што да ідэі прадставіць гэтыя "нататкі" на публіку яго падштурхнулі заходнія галерэйшчыкі, якія палічылі іх вартымі выставы. Дарэчы, у бліжэйшы час Алесь Марачкін павязе ўсю сваю выставу за мяжу, дзе ў яго як і ў Беларусі ёсць сталае кола гледачоў.

**В. БОГУШ**



***Дрэвы, дрэвы, дрэвы... Што з вамі сталася? Зусім нядаўна — аздобленыя пярэстымі гірляндамі лісця, а зараз — і для апошніх лістоў настаў час развітання. Яны кружаць пад толькі ім вядомую мелодыю. Складаюць чароўную восеньскую легенду. І паслухаць гэтую легенду запрашае Мінскі Палац дзяцей і моладзі.***

## АНОНС

*Тэатральная зала*
Выступленні музычных груп, асноўны напрамак — музыка Сярэднявечча і Адраджэння
*Мармуровая зала*
19.00—21.30 — Вечар старадаўняй музыкі, баль
**23 — "Фолк-дзень".**
*Балетная зала*
10.00—11.20 — Ірландскія кейлі, майстар-клас

# ЛЕГЕНДА ВОСЕНІ

Тры дні будзе доўжыцца тут самая відовішчная і новая для Беларусі імпрэза. 21, 22, 23 лістапада — фестываль старадаўняй музыкі і танца "Legenda Autuna" ("Легенда восені"). Ініцыятары і аўтары ідэі — Ордэн Паўночнага Храма і Мінская школа старадаўняга храма "Бассданс" пры падтрымцы Мінскага Палаца дзяцей і моладзі. Фестываль мае на мэце абудзіць грамадскую цікавасць да старадаўняй музыкі і танцаў, якая зрабілася ўстойлівай тэндэнцыяй у свеце. Таму лістападаўскі фестываль 2003 года будзе ўрачыстым пачаткам новай традыцыі.

Мінск на гэты час зробіцца месцам сустрэчы прадстаўнікоў руху гістарычнай рэканструкцыі, школ старадаўняга танца, музычных груп і танцавальных калектываў не толькі з Беларусі, але і з Украіны, Расіі, краін Прыбалтыкі, Польшчы. У журы ўвайшлі кампетэнтныя чальцы клубаў гістрэканструкцыі, карыфеі мастацтва, гісторыкі, якім належыць вылучыць лепшыя з лепшых.

Фестываль прапануе наведаць канцэрты і тэатралізаваныя прадстаўленні, семінары па гісторыі касцюма, балі пад старадаўнюю музыку і шмат што іншае. Адчуць атмасферу Сярэднявечча дапаможа і крама, дзе можна будзе набыць і абмяняць розныя вырабы, характэрныя для феадальнай эпохі, запісы старадаўняй музыкі. Апроч таго, гледачоў чакаюць прыемныя сюрпрызы.

**Валянціна КАЗЬМІНА**

**Фестываль старадаўняй музыкі і танцаў "Legenda Autuna"**
**Мінскі Палац дзяцей і моладзі**
**21 — Адкрыццё фэсту.**
*Мармуровая зала,* 19.00—21.30.
**22 — "Сярэднявечча і Адраджэнне".**
*Балетная зала*
10.00—11.20 — Іспанскія каталіцкія танцы XIII— XIV стст., майстар-клас
11.30—13.20 — Танцы Італіі XV— XVI стст., майстар-клас
15.30—16.50 — Танцы Францыі XVI ст., майстар-клас
17.00—18.20 — Алеманды, паваны, майстар-клас
*Вучэбны клас*
13.30—14.30 — Семінар па гісторыі еўрапейскага сярэднявечнага касцюма

11.30—12.50 — Шатландскія танцы, майстар-клас
13.00—14.20 — Брэтонскія танцы, майстар-клас
15.30—16.50 — Беларускія танцы, майстар-клас
17.00—18.20 — Танцы Прыбалтыкі, майстар-клас
*Тэатральная зала*
15.30—18.30 — Выступленні музычных груп, асноўны напрамак — старадаўняя фолк-музыка
*Мармуровая зала*
19.00—21.30 — Закрыццё фестывалю, народная вечарына.

***На ЗДЫМКУ: Ансамбль старадаўняй музыкі "Lituus".***

## БРАВА!

# ПАЎНАЛЕЦЦЕ




18 гадоў — як у той песні пяецца — бывае раз у жыцці. Таму гэтак урачыста і адзначыў сваё творчае паўналецце хор "Cantus Juventae". Кіраўніцтва Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта (alma-mater хору) паклапацілася, каб імяніннік і пачуваў сябе, і выглядаў на сваёй святочнай імпрэзе адпаведна. Да нагоды нават новыя канцэртныя строі пашылі. Прыгожыя!

Праз фотаакенца ў газеце, вядома ж, не ўбачыш разнакведце "сукенак для балю", не адчуеш гукавы жывапіс спеўнага шматгалосся... Але наш чытач не першы год знаёмы з хорам "Cantus Juventae", выпеставаным яго стваральніцай і мастацкім кіраўніком Галінай Цмыг. Ведае пра бляск "мастацкага дыямента", якім ганарыцца лінгвістычны універсітэт, на Міжнародным фестывалі духоўнай музыкі "Магутны Божа" ў Магілёве і на шматлікіх спеўных форумах па-за межамі краіны — у Германіі, Францыі, Аўстрыі, Нідэрландах, Італіі..

Свежыя маладыя галасы, выдатнае (паліглоты ж!) валоданне музычнай мовай. Чысціня інтанацыі, добрая дыкцыя, выразная фразіроўка і адчуванне стылю. Усе вартасці студэнцкага хору раскрыліся ў канцэрце, які адбыўся ў апошні кастрычніцкі дзень і прадставіў разнаітыя старонкі сусветнай музыкі — ад літургічнай да так званай лёгкай. Сярод узрушаных слухачоў былі і беларускія кампазітары, чые творы заўсёды ў рэпертуары "Cantus Juventae".

**Н. К.**

***ФОТА Ігара ГОРСКАГА***

## АФІША ЛІСТАПАДА

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета РБ**
***пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66***
16 — А. Адан "Жызель"
18 — К. Орф "Карміна Бурана", Бізе—Шчадрын "Кармэн-сюіта"
19 — Л. Герольд "Марная перасцярога"
21 — П. Чайкоўскі "Спячая прыгажуня"
23 — А. Мдзівані "Страсці (Рагнеда)"
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
***пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41***
14 — Святочны вечар, прысвечаны 70-годдзю тэатра
15 — Д. Вердзі "Баль-маскарад"
16 — В. А. Моцарт "Вяселле Фігара"
20 — Канцэрт, прысвечаны 90-годдзю А. Багатырова
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
***вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08***
14 — М. Адамчык, М. Клімковіч "Чорны квадрат", кабарэ-дэтэктыў
15, 26 — Э. Сагалаў "Палёты з анёлам", спектакль пра Марка Шагала
16, 23, 30 (а 12-й гадзіне) — Ш. Перо, Я. Шварц, Т. Габэ "Крыштальны туфлік", баль-маскарад
16 — Д. Альмагор "Толькі дурні сумуюць", прытча
18, 29 — А. Курэйчык "Понцій Пілат", гістарычная драма
20 — Канцэрт-спектакль ( з нагоды 10-годдзя тэатра)
21 — Я. Таганаў "Адэль", гісторыя кахання
22 — А. Карэлін "І рэха адказала — ты", дэтэктыў плюс... (прэм'ера)
23 — А. Шчуцкі "Каласнікі", трагікамедыя (прэм'ера)
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**Беларускі Дзяржаўны маладзёжны тэатр**
***вул. Даумана, 1, тэл. 289-32-62***
14, 19 — Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, альбо жаніцьба Фігара"
15, 23 — Лопэ дэ Вега "Вынаходлівая закаханая"
16, 22 — Б. Шоу "Пігмаліён"
20, 30 — М. Куліш "Казанне пра Гуску..." (прэм'ера)
21, 25 — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне"
Пачатак вячэрніх спектакляў а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Янкі Купалы**
***вул. Энгельса, 7, тэл. 227-17-17***
14 — Я. Стэльмах "Каханне ў стылі барока"(прэм'ера)
15, 16 (раніца і вечар) — А. Дудараў "Чорная панна Насвіжа"
17 — А. Дудараў "Кім"
19, 24 — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж"
20 — А. Дзяпендзік "Смак яблыка"
21 — А. Курэйчык "Згублены рай"
22 — М. Манохін "Парфён і Аляксандра"
23 — М. Задорнаў "Таполевая завея"
26 — Ф. Дзюрэнмат "Ромул Вялікі"
**Малая сцэна**
***вул. Энгельса, 12***
14 — П. Хуан "Дом, дзе спяць прыгажуні"
20 — С. Кавалёў "Саламея"
22 — І. Бергман "Восеньская саната"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
***вул. Валадарскага, 5, тэл. 220-15-41, 220-39-66***
14 — "Амфітрыён"
15 — Д. Марота, Б. Рандоне "Суцяшальнік удоў" (прэм'ера)
16 — Д. Фо, Ф. Рамэ "Свабодны шлюб"
2, 18 — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца"
19 — М. Горкі (нью) "Дзівакі"
20 — А. Камю "Калігула", у стылі "HARD"
Малая сцэна
16 — Ф. Шылер "Дземетрыус" (18-30)
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
***пр. Машэрава, 13, тэл. 223-08-11***
14 — "Фантазіі паводле Гогаля", сатыра
15, 16 — А. Данілаў "Мы ідзем глядзець "Чапаева"
18, 19 — Г. Салоўскі "Востраў нашай надзеі і любові"
20, 21 — Э. дэ Філіпэ "Філумена Мартурана"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч"**
**У касцёле св. Сымона, св. Алены**
***(плошча Незалежнасці, 15)***
17 (раніца) — С. Кавалёў "Маленькі анёлак", монаспектакль паводле вершаў Кармэн Барнос де Гаштольд, выканаўца — Р. Астрадзінава
17 (вечар) — У. Караткевіч "Нобіль — барвяны ўладар", монаспектакль паводле аповесці "Сівая легенда", выканаўца — з.а. Рэспублікі Беларусь У. Шэпестаў
20 — А. Вярцінскі "Любіць", паэтычны монаспектакль, выканаўца — Г. Дзягілева
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

## ВЫСТАВЫ

# АРТ-ПРАЕКТ

**Сёння ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры РБ працуе выстава "Жывапіс Сіцыліі 1883-2003г.г.", на якой прадстаўлены каля сотні работ італьянскіх майстроў. Унікальная выстава працягнецца да канца лістапада. У далейшы маршрут гэтага цікавага артпраекта ўваходзяць такія гарады як Масква, Барселона, Лондан, Палерма.**

**А. Д.**

***Фота Аляксандра ДЗМІТРЫЕВА***





Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**
**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-84-61**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1608
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 12.11.2003 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 4056
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12